# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 20 (282) 24 — 30 мая 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ

TV Усе каналы!

23-25 мая

# ДНІ СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ І КУЛЬТУРЫ










Віншуем народ Беларусі са святам славянскай пісьменнасці і культуры...

З такімі словамі нам хацелася б звярнуцца да чытача, адкрываючы гэты нумар газеты. Але ці можа, ці здольны адзначаць свята славянскай пісьменнасці і культуры народ, які амаль забыўся на родную мову, які, лічы, страціў сваю нацыянальную культуру? Рытарычнае пытанне.

Славянін — гэта балгарын, македонец, украінец, серб, паляк, рускі, чэх... А калі ты — ніхто, то які ты славянін? І дзе тады тваё месца на свяце славянскіх народаў? Няма, не будзе табе, нікому, месца ні ў свята, ні ў будні дзень!

Але пакуль мы, беларусы, яшчэ ёсць, і сярод беларусаў ёсць чытач нашай газеты, для якога ўжо напэўна гэтае свята шмат значыць, бо ён удзячна памятае, што ў IX стагоддзі Кірыла і Мяфодзій, стварыўшы азбуку для славян і праз яе пераклаўшы асноўныя тэксты з грэчаскай на стараславянскую мову, — заклалі трывалы ў тысячагоддзі падмурак для ўсёй славяншчыны, а гэта значыць і для нас таксама...

Дарэчы, магчыма не ўсе ведаюць, што малодшы з братоў Кірыла вынайшаў не "кірыліцу", а "глаголіцу". "Кірыліца" — гэта ўжо плён працы другога пакалення вучняў салунскіх братоў (Кірыла і Мяфодзій нарадзіліся ў Салоніках, Грэцыя). Прынамсі, так лічаць многія даследчыкі і сярод іх добра нам вядомы Дзмітрый Ліхачоў.

Зрэшты, тут не да месца паглыбляцца ў спрэчкі навукоўцаў. Для нас бясспрэчна адно: каб у сваю пару Кірыла і Мяфодзій не здзейснілі тое, што яны здзейснілі, то магчыма сёння толькі гісторыкі ведалі б, што некалі былі славяне. Аднак, Кірыла і Мяфодзій ні на крок не схібілі перад Богам і людзьмі на шляху свайго духоўнага паклікання... І таму стагоддзі праміналі за стагоддзямі, і ўсялякае здаралася паміж славянамі, але нішто нядобрае не магло пабурыць іх еднасць, бо ў сваю пару яе змацавалі ў адно цэлае духам і літарай роўнаапостальныя браты.

*Матэрыялы, прысвечаныя "Дням славянскай пісьменнасці і культуры", чытайце на 2 — 3 стар.*

РЭПАРЦЁРСКІ МАРАФОН

# РОЎНААПОСТАЛЬНЫЯ МЯФОДЗІЙ І КІРЫЛА

## ІНТЭРВ'Ю МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА, ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ



**— Якое месца зойме дзень святых роўнаапостальных Мяфодзія і Кірылы ў праваслаўным календары? Ці можна сказаць, што гэтае свята — адно з тых, калі падзел грамадства на рэлігійную і свецкую часткі страчвае значэнне?**

— Святыя Мяфодзій і Кірыла лічацца Праваслаўнай Царквой роўнаапостальнымі, гэта значыць, роўнымі апосталам Хрыстовым па тых справах, якія здзейснілі найбліжэйшыя вучні Госпада Ісуса Хрыста ў распаўсюджванні Евангелля і будаўніцтве Царквы як Цела Хрыстовага. Нагадаю, што да ліку роўнаапостальных належаць святая Марыя Магдаліна, якая першай убачыла Уваскросшага Збаўцу, візантыйскі імператар Канстанцін Вялікі, з чыім імем звязаны пачатак хрысціянскай візантыйскай гісторыі, расійскія княгіня Вольга — першая хрысціянка ў Старажытнай Русі, і яе ўнук князь Уладзімір, які хрысціў Русь у 988 годзе.

З жыццёвым подзвігам святых Салунскіх братоў Мяфодзія і Кірылы звязана асвета праз Евангельскае Святло многіх заходнеславянскіх плямёнаў і стварэнне алфавіту для перакладу Святога Пісання на славянскую мову. Для Хрышчэння Русі, што адбылося неўзабаве пасля іхняй казані, імі быў закладзены непарушны падмурак веры, распачатая кніжная справа, дзякуючы чаму нашыя продкі вучыліся Праваслаўю не толькі паводле грэцкіх, але і — славянскіх кніг, адкрыўшы потым уласную багатую старонку тэалогіі і кнігавыдання. Алфавітам святога Кірылы славяне карыстаюцца дасюль, і ўсе дасягненні як духоўнай, так і свецкай культуры занатаваны пісьмёнамі гэтага роўнаапостальнага схімніка.

Таму ў дні, калі Царква ўрачыста ўзгадвае гэтых найвыдатнейшых у гісторыі хрысціянства працаўнікоў, удзячная памяць усіх, хто пісьменны, не можа не ўхваляць іх. Вы цалкам маеце рацыю ў Вашым пытанні: святкаванне памяці святых роўнаапостальных Мяфодзія і Кірылы пераадольвае тую мяжу, што ў пэўнай ступені падзяляе секулярную і рэлігійную часткі грамадства. Аднак, разважаючы пра свае нацыянальна-гістарычныя карані, славянін — рускі альбо беларус, украінец альбо балгарын, серб альбо славак — прыйдзе не толькі да хрысціянства, але менавіта да Праваслаўя. Што ж да трох вялікіх народаў Святой Русі, дык нам сёння асабліва важна памятаць, што, як народы дзяржаўныя, мы пачаліся не з XIV і не з XVI стагоддзяў, але ад часоў святых Салунскіх братоў, князя Уладзіміра, прападобнай Еўфрасінні Полацкай, свяціцеля Кірылы Тураўскага...

**— Ці можна назваць Кірыла-Мяфодзеўскія ўрачыстасці падставай для яднання ўсіх славян, альбо гэта свята толькі для праваслаўнай часткі славянства? Якім чынам міжцаркоўныя сувязі маглі б спрыяць умацаванню славянскага адзінства?**

— Ушанаванне святых роўнаапостальных Мяфодзія і Кірылы было і застаецца вельмі значным і ў каталіцкім свеце: звярніцеся да жыцця Салунскіх братоў, — і вы знойдзеце сведчанні пра самы высокі ўзровень ушанавання працы гэтых паслоў Канстанцінопальскага Патрыярха з боку Рымскіх Першасвятароў Мікалая, Адрыяна II і Іаана IV. Царква Хрыстовая яшчэ не была падзелена ў тыя часы на ўсходнюю Грэка-Праваслаўную і заходнюю Рыма-Каталіцкую, і ў сваім адзінстве — "адзінымі вуснамі і адзіным сэрцам" ухваляла Бога і шанавала Яго вялікіх працаўнікоў.

Падзел Царквы Хрыстовай на заходнюю і ўсходнюю — гэта грэх чалавечы, што спарадзіў, выказваючыся моваю Царквы, "раздзіранне хітона Хрыстовага". Так і падзел славянства на каталіцкую і праваслаўную галіны — гэта толькі этнічны працяг падзелу царкоўнага. Чэхі і славакі, палякі і беларусы, харваты і сербы умеюць жыць у сяброўстве, нягледзячы на крызісы, што перыядычна ўзнікаюць у міжславянскіх стасунках.

Уласцівы ўсім славянам прыродны максімалізм спараджаў часам дыяметральна супрацьлеглыя ідэі — ад панславянскай мары да жорсткай міжславянскай непрыязі, — як, да прыкладу, сённяшняе Балканскае супрацьстаянне. Але калі славяне кідаюць сварыцца перад тварам агульнага ворага, — тады яны робяцца непераможнымі. У свой час менавіта гэтая "таямніца славянскай душы" стала падмуркам агульнаславянскай перамогі над германскім фашызмам. І сёння апосталы і настаўнікі славян святыя Мяфодзій і Кірыла нагадваюць нам пра тое, што ў нас значна больш агульнага, чым асобнага.

Наконт міжцаркоўных стасункаў магу сказаць цалкам адназначна: адносіны паміж мясцовымі Праваслаўнымі Цэрквамі ў славянскім рэгіёне былі і застаюцца самымі шчыльнымі і сяброўскімі — сапраўды братэрскімі. Мы ніколі не пакідалі адзін аднаго без малітоўнай і дыпламатычнай падтрымкі на ўсіх узроўнях: ад прыхаджан да святарства. Пра тое, наколькі сённяшнімі палітычнымі лідэрамі славянства ўлічваецца шматвяковы вопыт братэрскага ў Хрысце супрацоўніцтва славянскіх Праваслаўных Цэркваў, можна разважаць асобна.

Дарэчы, — цікавая асаблівасць! — толькі ў праваслаўным храме можна пачуць сёння жывую царкоўнаславянскую мову, гранічна блізкую да той, на якой маліліся, размаўлялі, пісалі і чыталі роўнаапостальныя Мяфодзій і Кірыла і ўсе іхнія славянскія сучаснікі. Тая старажытная мова, якую вы чуеце падчас набажэнстваў у Мінскіх цэрквах, гучыць у праваслаўных храмах Сербіі, Балгарыі, Польшчы, Украіны, Расіі... І калі вы можаце разумець царкоўнаславянскую мову, дык лёгка зразумееце нацыянальную мову сербаў і ўкраінцаў, рускіх і балгар, беларусаў і палякаў. Гэтаксама як немец і італьянец, француз і англічанін, ведаючы асновы латыні, маюць болей шанцаў зразумець адзін аднаго, размаўляючы кожны на сваёй мове.

**— Як ставіцца Беларуская Праваслаўная Царква да развіцця беларускай мовы?**

— Вельмі станоўча. Вам вядома, што Біблейская камісія Беларускага Экзархата працуе над перакладам Святога Пісання на сучасную беларускую мову. Гэтая праца звязана з распрацоўкай арыгінальнай беларускай багаслоўскай і царкоўнай тэрміналогіі, вольнай ад яўнага ўплыву як польска-, так і рускамоўнага асяроддзя. Асаблівасцю менавіта царкоўнага перакладу з'яўляецца імкненне не дапусціць аўтарытарнага ўплыву на лінгвістычныя якасці беларускага тэксту.

Камісія цалкам улічвае дасягненні асобных аўтарскіх перакладаў Святога Пісання на беларускую мову, якія рабіліся ў гісторыі апошніх стагоддзяў, на вопыт Георгія-Францыска Скарыны, святых Мяфодзія і Кірылы, на грэцкія арыгінальныя тэксты і на старажытнагабрайскую тэрміналогію.

Скажу больш: мы адмыслова паслалі найбольш здольных у галіне лінгвістыкі выхаванцаў Мінскай Духоўнай Семінарыі ў замежныя духоўныя школы, дзе яны вывучаюць мовы Святога Пісання вельмі глыбока. З прычыны таго, што сёння намі выдадзена толькі Евангелле ад Матфея на беларускай мове ў складзе тэтраглоты, што ўключае паралельныя тэксты на грэцкай, царкоўнаславянскай і рускай мовах, вы разумееце, што праца над перакладам усёй Бібліі зойме нямала часу. Прычым, паспешлівасць у гэтай справе вельмі небяспечная, бо прадмет перакладу — святы і не дазваляе нават самых дробных памылак альбо адхіленнняў ад першапачатковага сэнсу.

Заўважу, што ў Багаслоўскіх камісіях Маскоўскага Патрыярхату ўдакладняюцца асобныя месцы Сінадальнага перакладу Бібліі, якім мы карыстаемся сёння. Гэтая праца вядзецца і намі, і Расійскімі лінгвістамі-багасловамі ў супрацоўніцтве з міжнароднай арганізацыяй "Аб'яднаныя Біблейскія Таварыствы": часам гэты працэс праходзіць трохі напружана, аднак заўсёды надзвычай плённа.

На фоне мноства "самадзейных" перакладаў, што з'яўляюцца сёння ў асяродку сектанцкіх арганізацый на Захадзе і не вытрымліваюць ніякай крытыкі, Біблейская камісія Беларускага Экзархата ставіцца да сваёй дзейнасці з максімальнай патрабавальнасцю.

Акрамя гэтага, у нашых храмах гучаць казані па-беларуску — і гэта адзін з самых арганічных спосабаў уключэння сучаснай беларускай мовы ў тканіну набажэнства. На беларускай мове ідзе выкладанне некаторых прадметаў (філасофія, сектазнаўства і г.д.) у Мінскай Духоўнай Семінарыі, здзяйсненне Таямніцаў Хрышчэння, Вянчання, малебныя спевы пабеларуску (згодна з жаданнем прыхаджан) у Свята-Пятра-Паўлаўскім саборы Мінска.

**— Да святкавання памяці святых Мяфодзія і Кірылы прымеркаваны агульнарэспубліканскі ўрок гісторыі славянскага пісьменства, які плануецца наладжваць штогод напрыканцы навучальнага года. Якія стасункі сёння ў Царквы з дзяржаўнай сістэмай адукацыі? Ці няма ўзаемнай зацікаўленасці выкарыстаць магчымасць гэтых альбо падобных да іх урокаў для прывіцця дзецям хрысціянскіх маральных каштоўнасцяў?**

— Я маю гонар быць дэканам Багаслоўскага факультэта Еўрапейскага Гуманітарнага Універсітэта ў Мінску. У рамках супрацоўніцтва з дзяржаўнай сістэмай адукацыі спецыялістамі факультэта распрацаваны шэраг нарматыўных дакументаў, што тычацца дзяржаўнай стандартызацыі такога прадмета выкладання, як тэалогія, неабходнасць увядзення якога ў навучальных установах краіны відавочная. Бо ва універсітэтах Еўропы наяўнасць факультэтаў багаслоўя — гэта справа гонару і, калі хочаце, прэстыжу. У нас пакуль гэтая справа толькі пачынае ўвасабляцца ў жыццё.

Таму ёсць падставы ацэньваць нашыя адносіны як вельмі канструктыўныя. Разам з профільным міністэрствам мы ўхіляемся ад непрадуманых праектаў і канцэнтруем увагу на развіцці сістэмы падрыхтоўкі кадраў для выкладання багаслоўска-гістарычных дысцыплін у навучальных установах краіны.

Пра такія ўрокі, якія Вы назвалі, Царква раней не магла і марыць: мы бачым у іх сведчанне таго, што памяць пра свае нацыянальна-гістарычныя праваслаўныя карані жывая ў нашым грамадстве, як бы ні хацелі абвергнуць гэта

# МАЙСТРЫ

***Працягваем публікацыі з цыкла інтэрв'ю з кіраўнікамі творчых саюзаў Беларусі (№№ 10 — 12, 14 — 16, 19). Сёння наш суразмоўца — старшыня Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці Яўген САХУТА, вядомы ў краіне мастацтвазнаўца і вучоны-даследчык, для якога народнае мастацтва не толькі прафесія, але і лад мыслення.***

**— Яўген Міхайлавіч, у апошнія гады ў пэўных колах нашай творчай інтэлігенцыі мусіруецца пытанне: ці патрэбны нам сёння творчыя саюзы? Навошта, кажуць самыя радыкальныя інтэлектуалы, творчыя арганізацыі, якія былі прыдуманы і створаны ў часы сталінскага таталітарызму і, такім чынам, выконвалі цалкам ідэалагічныя функцыі? Не, цяпер саюзы не патрэбныя, сцвярджаюць яны; саюзы даўно спарахнелі і зрабіліся "гістарычнай рэліквіяй". Тым не менш, за апошняе дзесяцігоддзе на Беларусі самастойна, без дыктату "зверху" ўзніклі некалькі новых творчых аб'яднанняў, у тым ліку Саюз дызайнераў, Саюз фалькларыстаў, Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў і культурных фондаў, а таксама Ваш Саюз — Саюз майстроў народнай творчасці, якому, я ведаю, споўнілася сёлета пяць гадоў.**

— Так. Усё правільна. Грамадскія творчыя аб'яднанні заўсёды былі патрэбныя творцам — і не толькі ў нас. Іншая справа — каму і дзеля чаго? Адзначу, што ідэя стварэння творчага аб'яднання народных майстроў лунала ў паветры не адно дзесяцігоддзе. Але ў той час дзяржава ўсё-такі больш клапацілася пра народных і самадзейных майстроў і ўмельцаў, чым сёння.

**— Што Вы маеце на ўвазе?**

— Зазвычай гэта былі пампезныя мерапрыемствы кшталту рэспубліканскіх выстаў, у якіх бралі ўдзел вядомыя майстры. Мы заўсёды добра выглядалі і на ўсесаюзным узроўні, таму што тады і традыцыйнае народнае мастацтва, і сучасныя яго праявы развіваліся больш-менш натуральна. Можа, таму, гэтая ідэя стварэння Саюза тады свайго ўвасаблення так і не знайшла. Ва ўсёй вастрыні яна паўстала ўжо ў часы перабудовы, калі дзяржава, маючы вялікія фінансавыя складанасці, не надавала больш увагі культуры цалкам і народнаму мастацтву ў тым ліку.

**— Мяркую, што менавіта народныя майстры ў гэтым сэнсе аказаліся найбольш занядбанымі нават у параўнанні з прафесійнымі мастакамі, якія сканцэнтраваныя звычайна ў сталіцы альбо ў абласных цэнтрах і таму здольныя нейкім чынам зарабіць сабе сродкі для існавання.**

— Вы маеце рацыю. Народныя майстры, у асноўным, людзі старэйшага пакалення, жывуць у аддаленых куточках Беларусі, у маленькіх вёсачках, куды, як той казаў, рука са сталіцы не дацягваецца.

**— Такім чынам, наспела праблема стварэння творчага аб'яднання...**

— ..І гэта было зроблена ў 1991 годзе падчас невялікай выставы, якая праходзіла ў культурным цэнтры "Белая дача" пад эгідай Беларускага інстытута праблем культуры.



**— Выстава мела вельмі адметную назву — "Апошнія"?**

— Так. Там былі прадстаўленыя творы майстроў старэйшага пакалення, якія, як думалася тады, былі апошнімі носьбітамі традыцый народнага мастацтва. І што будзе, калі яны пакінуць гэты свет, ніхто не ведаў... Дык вось, паводле вынікаў гэтай выставы была праведзена канферэнцыя, дзе сабраліся спецыялісты і ўсе, хто быў зацікаўлены ў гэтай справе. Там і было прынята канчатковае рашэнне, бо далей цягнуць няма куды: або — сёння, або — ніколі. І было створана Таварыства майстроў народнай творчасці...

**— І гэта нягледзячы на тое, што вы практычна нічога не мелі: ні сродкаў, ні памяшканняў, ні вопыту, як іншыя творчыя саюзы...**

— Мы пачыналі з нуля, фактычна на чыстым энтузіязме. Галоўнымі пытаннямі былі адраджэнне выставачнай дзейнасці і згуртаванне майстроў. Праз год стала відавочным, што назва Таварыства не адпавядае тым вялікім мэтам, якія перад ім ставяцца. Таму ў 1992 годзе на справаздачна-выбарчай канферэнцыі было прынята рашэнне абператварэнні Таварыства ў Саюз.

**— А хто быў старшынёй Таварыства?**

— Я. Потым мяне зноў абралі старшынёй будучага Саюза майстроў народнай творчасці, і вось я ўжо другі тэрмін запар кірую гэтым аб'яднаннем.

**— І можна, мабыць, ужо падвесці некаторыя вынікі Вашай працы? Што Вы здолелі зрабіць, а што — пакуль не?**

— Па-першае, скажу аб задачах, што стаялі перад новастворaным Саюзам. Гэта — адраджэнне, захаванне і папулярызацыя народнага мастацтва, арганізацыя пераемнасці традыцый народнай мастацкай творчасці, сацыяльная абарона народных майстроў, уключэнне народнага мастацтва ў сучасныя культурныя працэсы...

**— Задачы глабальныя і вельмі цяжкія...**

— Так. Нам удалося згуртаваць народных майстроў. На сённяшні дзень у Саюзе іх больш за 200. Гэта, безумоўна, далёка не ўсе

нашыя наваспечаныя "заходнікі" і "рацыяналісты".

Наконт прывіцця хрысціянскіх нормаў жыцця новаму пакаленню мне хацелася б заўважыць, што гэта справа ў большай ступені Нядзельных царкоўнапрыходскіх школ і ўзроўню іхняга факультатыўнага супрацоўніцтва з агульнаадукацыйнымі школамі на месцах. Да прыкладу, калі дырэктар школы, настаўнік, прыходскі святар, бацькі дзіцяці і само дзіця хочуць разам у вольны час вывучаць Евангельскія запаветы і набываць уменні іхняга выкарыстання, дык ім павінна быць прадастаўлена магчымасць рабіць гэта ў той форме, якая ўсім разам уяўляецца найбольш удалай у гэтай канкрэтнай школе. Тады не будуць узнікаць канфлікты, непазбежныя пры спробе уніфікаванага падыходу да рашэння задач хрысціянскага выхавання маладога пакалення.

Сёння грамадства яшчэ не вызвалілася ад некаторай экзальтацыі ў рэлігійнай сферы: адсюль захапленне псеўдарэлігійнымі тэорыямі, удзел у парапсіхалагічных сектах, у акультных гуртках... Часы зменаў заўсёды і ва ўсіх народаў вылучаліся падобным абвастрэннем рэлігійна-містычных пачуццяў людзей. Аднак спакойная і ўраўнаважаная на працягу тысячагоддзяў плынь унутранага, глыбока духоўнага і малітоўнага жыцця Царквы, якое не абыходзяць, як і ўсё зямное, выпрабаванні і катаклізмы, вабіць да яе людзей, якія шукаюць стабільнасці ў гэтым нетрывалым свеце. Акрамя моцы Праваслаўнага хрысціянства вакол нас зменлівае ўсё — і палітыка, і культура, і навука... Калі чалавек знаходзіцца ў стабільнай сістэме, дык і ягоная псіхіка, і ягоныя перакананні, і ягоныя паводзіны набываюць стабільны характар, — удасканальваючыся, але не змяняючыся. Калі ж ён любіць пастаянныя змены — сферу моды і свецкага тлуму, — дык ягоная сацыяльная прырода таксама страчвае стабільны характар, а псіхіка становіцца рухомай, хваравітай.

У Царквы няма праблемы часу: Аўраам і Майсей, Давід і Ісая, Ерамія і Іаан Хрысціцель, апосталы Пётр і Павел і роўнаапостальныя Мяфодзій і Кірыла — усе гэтыя людзі ўспрымаюцца праваслаўным хрысціянінам нібыта ягоныя сучаснікі, і сам ён вымярае сваю душу не аршынам сённяшняй моды, але крытэрыем Боскага запавету.

Таму іншы раз Праваслаўную Царкву незнарок альбо наўмысна папракаюць кансерватыўнасцю. Але нашая кансерватыўнасць — гэта зусім не застой: гэта шматвяковая памяць пра мінуўшчыну, дзе мы жывём гэтаксама актыўна, як і сёння. Але тлум бягучага дня для чалавека, які моліцца, не засланяе вечнасці. Вось таму шмат хто прыходзіць у Царкву, хаця і не заўсёды дакладна разумеючы прыроду гэтага паклікання. Проста разумны шлях у будучыню і чалавек, і народ пракладвае праз сваю шматвяковую мінуўшчыну. А яна ва ўсіх нас агульная, хочам мы гэтага альбо не: гэта дом Айца нашага нябеснага, бо ўсе мы — вобраз і падабенства Боскае.

**— Якія мерапрыемствы з боку Беларускай Праваслаўнай Царквы падрыхтаваны да дня святкавання памяці святых Мяфодзія і Кірылы?**

— Па-першае, Царква брала пэўны ўдзел у значнай частцы мерапрыемстваў, што рыхтуюцца дзяржаўным бокам. У дадзеным выпадку наўрад ці варта дакладна падзяляць, дзе нашае, а дзе — не нашае. Гэта агульная па сваёй сутнасці справа. Просты прыклад: з вялікай колькасцю калектываў, якія ўдзельнічаюць у Фестывалі духоўнай музыкі як у сталіцы, так і ў іншых цэнтрах, Царква супрацоўнічае даўно і плённа. Ды і хіба можа быць інакш, калі мы кіруемся словамі спевака псалмаў цара Давіда: "Слаўлю Госпада па праўдзе Яго і спяваю імю Госпада Усявышняга" (Псалтыр, 7: 18). Хор Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі пад кіраўніцтвам прафесара Віктара Роўды, вакальны ансамбль "Чысты голас", хор Мінскага Епархіяльнага Упраўлення, хор Мінскай Духоўнай Семінарыі, шматлікія архірэйскія і прыходскія хары нашай Царквы — гэта вельмі прадстаўнічы сход высокіх прафесіяналаў у музычным свеце.

Па лініі навукі на Багаслоўскім факультэце Еўрапейскага Гуманітарнага Універсітэта ў Мінску 22 — 25 траўня ў рамках Кірыла-Мяфодзеўскіх урачыстасцяў наладжваецца Канферэнцыя, што ўключае ў сябе Студэнцкія Чытанні, круглы стол на тэму "Выкладанне тэалогіі, гісторыі рэлігій і рэлігіязнаўства ў сістэме сучаснай свецкай адукацыі". І, нарэшце, галоўнае для Царквы — гэта ўрачыстыя набажэнствы ва ўсіх праваслаўных храмах. Для нас няма нічога вышэйшага і важнейшага за Боскую літургію — удзячнасці Госпаду за вечнае жыццё ў зносінах з Ім, якое Ён падарыў нам, аддаўшы Сына Свайго Першароднага.

Карыстаючыся магчымасцю, прадастаўленай вашай газетай, віншую ўсіх яе чытачоў са святам славянскага адзінства ў Хрысце Ісусе, ля вытокаў якога стаялі святыя роўнаапостальныя браты Мяфодзій і Кірыла! Іхнімі малітвамі Гасподзь ды захавае нас у аднадушшы, братэрскім супрацоўніцтве і міры.

**Пытанні задаваў Ігар КЛОКАЎ**

---

***Генадзь ДЫЛЯН:***

# "ДУХОЎНАСЦЬ ДЫКТАТАМ, ЛІТАРАЙ ЗАКОНУ НІКОМУ НЕ ПАД СІЛУ НІ ПРЫВІЦЬ, НІ ЎКАРАНІЦЬ..."

***Кірыла і Мяфодзій, вялікія славянскія асветнікі, браты, усё сваё жыццё прысвяцілі барацьбе, змаганню за сваю, славянскую, мову. Імёны братоў недарэмна з'яўляюцца сімвалам культурнай еднасці і самастойнасці славянства. У Балгарыі даўно дзень (вызначаны царквою 11 мая) Кірылы і Мяфодзія пераўтвораны ў свята нацыянальнай асветы і культуры. Традыцыя прыходзіць спакваля і на Беларусь. Лагічна, што асноўны клопат па святкаванні дня Кірылы і Мяфодзія ўскладзены на Міністэрства адукацыі. Наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй арганізацыйнага камітэта, намеснікам міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Генадзем ДЫЛЯНАМ.***

**— Калі ласка, для пачатку некалькі слоў пра саму прысутнасць, месца кірыла-мяфодзіеўскага, калі можна так сказаць, свята ў сістэме школьнай адукацыі?**

— Галоўнае, што вызначана як абавязак адукацыйнай сістэмы да згаданага свята ці дня ўшанавання, дык гэта правядзенне ўрокаў гісторыі славянскай пісьменнасці. І акрамя гэтага, у рамках такога вось своеасаблівага святкавання мы праводзім выключнае мерапрыемства — чацвёртыя Свята-Еўфрасіннеўскія чытанні.

**— А ці нельга крышачку падрабязней пра гэтыя чытанні?..**

— Урокі гісторыі славянскай пісьменнасці вызначана было правесці 14 мая ва ўсіх школах краіны. Непасрэдна на месцы выдадзены рэкамендацыі. Настаўнікі ведаюць, як іх праводзіць, бо маюць пэўны вопыт. Акрамя таго, мяркуецца правядзенне пазакласнай, пазашкольнай работы.

Што ж датычыцца чацвёртых Свята-Еўфрасіннеўскіх педагагічных чытанняў, то сёлета іх тэмай будзе "Духоўнае, маральнае і культурнае значэнне праваслаўя ў абнаўленні адукацыі". Таму і праводзім святкаванне беларускай пісьменнасці сумесна з Беларускім Экзархатам. Старшынёй аргкамітэта Свята-Еўфрасіннеўскіх чытанняў з'яўляецца Свяцейшы Арцемій, епіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі. А ўвогуле аргкамітэт уключае і прадстаўнікоў адукацыі, і прадстаўнікоў праваслаўнай царквы. Чытанні пачнуцца 27 мая. Вітаць іх адкрыццё будзе мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. З дакладам выступіць міністр адукацыі Васіль Іванавіч Стражаў. Затым пройдуць пленарныя паседжанні. Згаданую тэматыку будуць асвятляць спецыялісты адукацыі, пачынаючы ад тых, хто працуе ў дашкольных установах.

**— Генадзь Дзям'янавіч, а не баіцеся вы, што ў такіх вось чытаннях і ў тых жа ўроках губляецца сама свецкасць нашай айчыннай школы?**

— Ні ў якім разе не губляецца і не падрываецца свецкасць нашай айчыннай школы. Мы не першы раз супрацоўнічаем з праваслаўнай царквою. Нашы адносіны з царквою заснаваны на пагадненні, падпісаным паміж міністэрствам і экзархатам. І ў царкве цудоўна разумеюць, што ёсць пэўныя межы. Мітрапаліт Філарэт уважлівы да школы і ён цудоўна разумее, што царква не мае ніякіх падставаў парушаць яе свецкасць.

Пазіцыя міністэрства адукацыі, выкладзеная ў пагадненні з Беларускім Экзархатам, — сумесна з праваслаўнай царквой займацца маральным выхаваннем школьнікаў. І ў сувязі з гэтым у нас не ўзнікала ніводнага канфлікту.

Што датычыць Свята-Еўфрасіннеўскіх чытанняў, то яны шырокамаштабныя. Удзел у мерапрыемстве прымуць прадстаўнікі самых розных галін адукацыі. Усяго — каля 500 чалавек.

**— Згодзен, што грэх не выкарыстоўваць у аздараўленні, у духоўным фармаванні нашага грамадства, у маральным гартаванні падрастаючага пакалення вопыт праваслаўнай царквы. Але ж не меней цікавы вялізны патэнцыял, які ў самой школе павінен быў ужо сфарміравацца, адносна стаўлення да веры, ды хрысціянства. Ці не так?**

— У апошнія гады, калі праводзяцца дні Кірылы і Мяфодзія, у школах склаліся свае, прыватныя, асабістыя мадэлі шанавання славутых продкаў славян. Але ж наўрад ці разумна нешта навязваць царкве з нашага боку. Духоўнасць дыктатам, літарай закону нікому не пад сілу ні прывіць, ні ўкараніць.

**— А чаму вось такое цеснае супрацоўніцтва менавіта з адной канфесіяй?**

— Па-першае, што датычыцца кірыла-мяфодзіеўскіх мерапрыемстваў, то тут, думаю, усё зразумела. А вось увогуле калі гаварыць пра сувязі праваслаўнай царквы са школай, то сакрэт нашых актыўных стасункаў вельмі простыя. Іншыя канфесіі не ідуць да нас, не праяўляюць актыўнасці ў наладжванні кантактаў.

**— А калі б праяўлялі, то міністэрства, увогуле адукацыйная сфера гатовыя супрацоўнічаць і з каталікамі, і з пратэстантамі?**

— А чаму б і не... Праўда, пры адной толькі ўмове...

**— І якой жа, калі не сакрэт?**

— Калі канфесіі будуць дзейнічаць у стасунках са школай у рамках дзеючага заканадаўства, у рамках грамадскай маралі.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

---

майстры нашай краіны, але, так бы мовіць, лепшая іхняя частка, своеасаблівая эліта, у якой ёсць чаму павучыцца моладзі, што мяркуе звязаць свой лёс з нашым Саюзам.

**— Якія віды народнага мастацтва прадстаўляюць члены Вашага Саюза?**

— Практычна ўсе віды традыцыйных рамёстваў і промыслаў, якія існавалі на Беларусі, у тым ліку і тыя, што былі забытыя, але дзякуючы нашай дзейнасці адрадзіліся. Гэта і мастацкая апрацоўка дрэва, і ткацтва, і вышыўка, і карункапляценне, і пляценне з саломкі і лазы, і кавальства, і роспіс, і выцінанка, і ганчарная справа... Карацей, майстры сёння прадстаўляюць практычна ўсю геаграфію Беларусі... Але асноўная частка народных майстроў — гэта Мінск і яго наваколле.

**— Разумею: для таго, каб даехаць да кожнага майстра, які жыве ў "глыбінцы", патрэбныя і сродкі, і транспарт. Вы ж не маеце ні першага, ні другога.**

— Так, не маем, і гэтая праблема тым больш балючая, што самыя цікавыя і арыгінальныя творцы жывуць менавіта ў аддаленых кутках. Павінен шчыра прызнацца, што сёння мы яшчэ не ў стане ахапіць усю краіну. Таму найбліжэйшай нашай задачай з'яўляецца стварэнне на месцах рэгіянальных, абласных, раённых аддзяленняў Саюза. Вось нядаўна стварылі Бабруйскае аддзяленне, прыняўшы там у Саюз адразу ажно дзевяць майстроў! Менавіта праз нашыя аддзяленні мы плануем праводзіць нашу "саюзную" палітыку.

**— І якая яна, гэтая палітыка?**

— Па-першае, не даць знікнуць традыцыям і, па-другое, наладзіць пераемнасць пакаленняў. У гэтым сэнсе мы працуем, думаецца, дастаткова кваліфікавана. У праўленні нашага Саюза ёсць выдатныя спецыялісты-тэарэтыкі, у тым ліку Міхась Раманюк, Вольга Лабачэўская, Рыгор Шаура...

**— А як у вас наладжана тая самая пераемнасць пакаленняў, пра якую Вы казалі?**

— Мы не робім нічога фармальна. Пераемнасць мы імкнемся наладзіць традыцыйным чынам, каб традыцыі перадаваліся ад старэйшага пакалення малодшаму. Мы не чытаем лекцыі-натацыі, не прымушаем пачаткоўцаў і аматараў рабіць тое, да чаго ў іх, як кажуць, не ляжыць душа. Мы імкнемся далікатна накіроўваць іх у плынь традыцый. Таму і ў наш Саюз мы прымаем не толькі "стопрацэнтных", падрыхтаваных майстроў, але і маладых людзей, якія, магчыма, і не зусім дацягваюць да пэўнага ўзроўню, але ўжо валодаюць рамяством і імкнуцца да ўдасканалення свайго майстэрства. У нас шмат адпаведнай літаратуры, мы наладжваем кансультацыі, дыскусіі і, безумоўна, выставы...

**— Што яшчэ робіць Саюз для сваіх членаў, акрамя выстаў, кансультацый, тэарэтычнай дапамогі?**

— Мы афіцыйна ўваходзім у розныя дзяржаўныя структуры з просьбамі аб ільготах пры аплаце за электраэнергію, за майстэрні, матэрыялы і г.д. Дзякуючы намаганням Саюза некалькі майстроў штогод атрымліваюць дзяржаўныя стыпендыі ад Міністэрства культуры. Гэта, безумоўна, вялікая падтрымка для нашых майстроў. Мы шукаем любыя магчымасці, каб палепшыць матэрыяльныя ўмовы існавання нашых майстроў, каб абараніць іх ад стыхіі "дзікага рынку", ад наступу мас-культуры. Адным словам, імкнемся паставіць народнае мастацтва на адзін узровень з іншымі відамі нацыянальнай культуры.

**— Распавядзіце трошкі пра Цэнтр этнаграфіі, фальклору і рамёстваў пры Політэхнічнай акадэміі.**

— Некалькі гадоў таму былы рэктар Акадэміі звярнуўся ў Канфедэрацыю творчых саюзаў, членам якой мы з'яўляемся, з прапановай наладзіць гуманізацыю тэхнічнага навучання. Канфедэрацыя не адмовіла, але на гэтым усё і скончылася. А наш Саюз ухапіўся за гэтую ідэю, хаця на той час у нас не было ні штатаў, ні памяшкання. Усё рабілася на энтузіязме. Мы адразу ж узялі ініцыятыву ў свае рукі і звярнуліся да рэктара Політэхнічнай акадэміі Міхаіла Дземчука з прапановай аб супрацоўніцтве. І нам дапамаглі: былі выдзеленыя прыстойныя памяшканні пад выставачную залу і для заняткаў гурткоў. Так стварыўся Цэнтр этнаграфіі, фальклору і рамёстваў, дзе займаюцца студэнты Акадэміі, а выкладаюць нашыя майстры.

**— Карацей, гэты Цэнтр стаў ужо не толькі асяродкам навучання студэнцкай моладзі, але і культурным асяродкам для ўсяго горада.**

— І нават усёй краіны. Выставачная зала з пастаяннай экспазіцыяй твораў лепшых майстроў сёння замяняе, па сутнасці, музей сучаснай народнай творчасці, якога ў нас яшчэ няма...

**— А чаго Вам не хапае, каб палепшыць жыццё народных майстроў?**



*Работы юных майстроў народнай творчасці Дома рамёстваў г. Лепеля.*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

— Нам не хапае шмат чаго. Але спадзяюся, што хутка прыйдзе той час, калі для народнага мастацтва будуць створаны пэўныя льготныя ўмовы. Вялікія надзеі мы звязваем з прыняццем Закону аб творчых саюзах, а таксама з Законам аб народных мастацкіх промыслах.

**— За кошт якіх сродкаў існуе Ваш Саюз?**

— Уся справа ў тым, што мы праводзім акцыі, якія павінна было б арганізоўваць Міністэрства культуры. Але яно да ўсяго дацягнуцца не можа. І ўбачыўшы ў нас аўтарытэтных спецыялістаў-энтузіястаў, міністэрства ладзіць некаторыя акцыі разам з намі, выдзяляючы пад гэта пэўныя сродкі. Так, напрыклад, была праведзена летась першая Нацыянальная выстава народнага мастацтва, што дзейнічала некалькі месяцаў.

**— Карацей, дзяржаўная падтрымка і Ваш энтузіязм?**

— Так. І яшэ спонсары — людзі, якія неабыякава ставяцца да нашага народнага мастацтва. Я ж асабіста працую на грамадскіх пачатках.

**— І яшчэ паспяваеце пісаць таленавітыя кнігі пра народную творчасць...**

— Летась у мяне выйшлі дзве кніжкі: "Беларускае народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва" і "Народныя мастацкія рамёствы Беларусі". Але, безумоўна, галоўная праца, вынік маёй 25-гадовай навуковай дзейнасці — кніга "Народнае мастацтва Беларусі", прэзентацыя якой адбылася 13 траўня ў Нацыянальнай бібліятэцы.

**— Яўген Міхайлавіч, дазвольце пажадаць Вам і Вашаму маладому Саюзу ўсяго найлепшага, новых планаў і вялікага плёну.**

**Гутарыў Барыс КРЭПАК**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

### ЯК САЦРЭАЛІЗМ ПЕРАМОГ БЕЛАРУСЬ

# ДЭМАГОГІЯ, УЗВЕДЗЕНАЯ Ў СТУПЕНЬ ПАЧУЦЦЯ...

## Артыкул трэці

Пасля разгрому "нацдэмаўшчыны" мастацкі карабель Беларусі пад сцягам "сацыялізму, што канчаткова перамог", уваходзіў у ціхую гавань канфармізму. За фантастычна кароткі тэрмін, нібыта ракавыя метастазы, ахапіўшы літаральна ўсе віды і жанры мастацтва, ён увайшоў у душы нават тых, хто смела, разняволена і дзёрзка пачынаў свой творчы шлях у 20-я гады.



Але тут мне б хацелася зрабіць невялікае адступленне. Так, сёння мы горка разважаем пра тое, што было тады; пра тое, як усюдыісная мана стала асновай сацрэалізму ва ўсіх галінах культуры. Але праўда не можа быць аднабаковай альбо двухбаковай, маўляў, "з аднаго боку", "з другога боку"; — яна павінна аднаўляцца цалкам, ва ўсіх праявах, аб'ектыўна і сумленна, нават калі гэтая горкая праўда тычыцца не зусім прывабных з сённяшняга пункта погляду бакоў жыцця і творчасці вялікіх мастакоў.

Так, апякун у нарматыўнага метаду быў больш магутны, больш страшны за, скажам, кардынала Рышэлье — для класіцызму. У такой атмасферы ў творчасці нашых выдатных творцаў не магло не з'явіцца згубнай дваістасці — у адных болей, у іншых — меней.

Што казаць: ішлі на здзелкі з уласным мастакоўскім сумленнем і расійскія "жывыя класікі" А.Талстой у "Хлебе", і М.Булгакаў у "Батуме", і М.Горкі ў мярзотнай кнізе пра Беламорканал. І Б.Пастарнак спрабаваў у сярэдзіне 30-х "меряться пятилеткой". І К.Станіслаўскаму дзяржаўнае выкараненне "фармалізму" здавалася актам вялікага клопату правадыра пра вялікае мастацтва, і ён натхнёна вітаў ліквідацыю меерхольдаўскага тэатра. Нават непаслухмяныя Дз.Шастаковіч і А.Хачатуран не вытрымалі націску "генія чалавецтва" і прысвяцілі яму свае творы. Вымушаны былі ісці на кампрамісы і нашы найсумленнейшыя Я.Купала і Я.Колас, якім цяжка было супрацьстаяць страшнай сталінскай вакханаліі.

Мне могуць сёння запярэчыць: навошта класціся грудзямі на амбразуру дота, калі там няма кулямёта? Так, нам лёгка цяпер меркаваць пра той час з вышыні сучаснага жыцця, лёгка лаяць тых, хто калісьці верыў у ісціну ў апошняй інстанцыі. Але не трэба забывацца на горкую праўду пра тое, што гісторыя мае звычку паўтарацца...

Усё гэта я кажу, безумоўна, не папракаючы тых, хто вынес на сабе вялікі цяжар 30-х гадоў. Нікога з іх, майстроў культуры, язык не павернецца назваць мярзотнікам. Барані Божа, хоць на адно імгненне апынуцца ў тым "каменным мяху", дзе яны правялі чвэрць свайго жыцця. Я маю на ўвазе не толькі разнастайныя формы вонкавага ціску (цэнзура, "прапрацоўка" ў друку, рэпрэсіі, пазбаўленне працы). Вельмі цяжка жыць чалавеку, усведамляючы, што ўся рота крочыць не ў нагу, і толькі ён, прапаршчык-небарака, ведае праўду. Асабліва калі "рота" — гэта 170-мільённы народ. Вельмі пакутліва адчуваць сваю сацыяльную адзіноту, вельмі балючае пачуццё адшчапенства, калі нават у аснове яго ляжаць прадбачлівасць і безумоўнае веданне ісціны.

Мяркую, што менавіта гэтае пачуццё было самым магутным стымулам не толькі для вершаў Мандэльштама, але нават і для прамоў Бухарына, які быў вымушаны не аднойчы прызнавацца ў нязробленых ім памылках. Згубная дваістасць такога кшталту назіралася і ў таленавітых майстроў выяўленчага мастацтва. Але калі голад і жабрацтва прымусілі аднойчы П.Філонава дзеля заробку напісаць партрэт Сталіна, дык што ж прымушала іншых вядомых дзеячаў мастацтва з кожнай нагоды ўхваляць Гаспадара і ягоных "верных паплечнікаў"?

Што гэта — сапраўды святая вера ў ідэал сацыялізму альбо да болю знаёмы канфармізм? Альбо гарантаваны сродак пабольшыць і без праблем зарабіць на сытае жыццё, атрымаўшы апладысменты лiслівай прэсы і "вярхоў"?

Так, гэта было цяжкае сацыяльнае захворванне, што мела надзвычай складаныя прычыны. Каго спакусілі, каго пераканалі, каго зламалі, каго запалохалі, хто сам паверыў, хто быў падрыхтаваны да абсалютнай несвабоды і з радасцю спалучыў свой унутраны зарад з метадам сацрэалізму — тут нельга знайсці адназначны адказ.

Так ужо здарылася, што за магутным шчытом сацрэалізму надзейна хаваліся і махровы касмапалітызм, і грамадзянская пасіўнасць мастакоў, і знішчаныя дырэктыўным молатам культурныя традыцыі беларускага народа, яго духоўны побыт і нацыянальныя пачуцці. Сталінізм ператварыў мастацтва ў зброю ідэалогіі, у сапраўдную дэмагогію. Тэмы, далёкія ад жыцця, ідэі сумніўнай каштоўнасці павінны былі фармавацца паводле строгіх канонаў, удасканальваючы сваю натуралістычную форму. Сюжэты тут не вельмі разнастайныя: неабдымныя калгасныя палі, магутныя трактары, слаўныя будаўнікі, механізатары, даяркі, якія згуртаваліся ў дружны калектыў, рашучыя піянеры і бадзёрыя камсамольцы, самая моцная ў свеце Чырвоная Армія, бясконцыя святы, багатыя ўраджаі, пускі электрастанцый, капанне бульбы, сяброўства народаў, шчаслівае юнацтва...



Паводле словаў аднаго з крытыкаў, перадваенныя гады "з'явіліся якасным скачком у развіцці выяўленчага мастацтва Беларусі, перыядам творчага росту... У творчасці мастакоў канчаткова замацоўваецца метад сацыялістычнага рэалізму, тэматычная карціна напаўняецца грамадска-гістарычным сэнсам".

Не ведаю, як наконт "якаснага скачка", але адно зразумела: беларуская культура ў другой палове 30-х гадоў трапіла ў цiскі жорсткай цэнтралізацыі і дыктату. Мастацтву быў навязаны сацрэалізм без уліку шматвяковых традыцый, індывідуальнасці мастака, духоўнага вопыту мінуўшчыны.



Безумоўна, унутраная мастацкая сувязь з 20-мі гадамі існавала. І новыя, праўда, прыхаваныя, пошукі ўчарашніх беларускіх авангардыстаў, рэалістаў, канструктывістаў, імпрэсіяністаў у паэтычнай трактоўцы рэчаіснасці я б назваў калі не "мастацтвам супраціўлення", дык, прынамсі, мастацтвам не канфармісцкім. Некаторыя творы М.Філіповіча, А.Шаўчэнкі, М.Эндэ, Ф.Фогта, Л.Зевіна, Р.Семашкевіча, У.Руцая, А.Грубэ, М.Сеўрука, Я.Драздовіча, П.Сергіевіча заўважна вылучаліся сярод казённа-парадных падробак афіцыйнага мастацтва "сталінскага ра несансу". Але чым больш бес саромна яно, гэтае "мастацтва", маніла, тым больш настойліва сцвярджаўся тэзіс "рэалістычнай праўдзівасці" ў мастацкіх творах. Асаблівы псіхалагічны феномен

# МУЗЫ, ДЗЯДЗЕЧКА МАЗАЙ І НЯСВІЖСКАЯ МАЗАІКА

Музыка і музы — словы амаль што аднакаранёвыя. Таму невыпадкова, што Другі фестываль камернай музыкі ў Нясвіжы праходзіў пад кодавай назвай "Музы Нясвіжа", афіцыйна дадзенай навуковай канферэнцыі.

Акрамя музыкаў, што гралі і ў зале раённага цэнтра культуры, і ў фае, і ў родавым замку Радзівілаў, і ў яго ўнутраным дворыку, і проста ў радзівілаўскім парку, на фестывалі шчодра былі прадстаўлены мастакі: Рыгор Сітніца, Уладзімір Вішнеўскі, Юрась Хілько, Уладзімір Стальмашонак, Юрый Піскун, Алена Юр'ева і фотамастак Віктар Данілаў. Агульную ўзнёслую атмасферу дапаўнялі вершы Леаніда Дранько-Майсюка і фрагмент спектакля "Барбара Радзівіл" у выкананні артыстаў тэатра "Вольная сцэна".

Міхаіл Фінберг, які выступіў арганізатарам фестывалю і яго мастацкім кіраўніком, глядзеўся ў ролі славутага Ноя ці нават дзеда Мазая, які сабраў у свой човен усіх "зайцоў" з беларускага мастацкага асяроддзя. Роля гэтая была для яго добра знаёмая: Міхаіл Фінберг наогул любіць, як кажуць, "падграбаць пад сябе" ўсё найбольш яркае і таленавітае. Гляньце хаця б на эстраду: толькі з'явіцца на небасхіле больш-менш перспектыўнае імя — адразу будзе залічана ў штат Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. Дый сама назва "аркестр" — гэта толькі вяршыня айсберга, у нетрах якога незлічоная колькасць калектываў: і шматлікія джазгрупы, і камерны аркестр пад кіраўніцтвам Валерыя Сарокі — галоўная дзейная асоба Нясвіжскага фестывалю, і ансамбль салістаў пад кіраўніцтвам Барыса Нічкова, дзе сабраны лепшыя духавікі Беларускай акадэміі музыкі — ад аспіранта да прафесара. А сам маэстра — не проста ў ролі памаладзелага някрасаўскага героя, а яшчэ і ў ролі... чараўніка.

Ды ўсё ж "чараўнік" — гэта хобі, што суправаджае любую легендарную асобу. Па сваёй жа сутнасці, што не менш важна, Фінберг — папулярызатар. І гэта ніколькі не менш значная "прафесія", чым першапраходзец, цяжкую долю якога маэстра любіць выдаваць за сваю. Творы, што гучалі на Другім фестывалі ў Нясвіжы, так ці інакш былі ўжо вядомыя знаўцам і аматарам беларускай даўніны. Але яны б так і засталіся прыярытэтам спецыялістаў, калі б не іх, прабачце, рэклама. І калі Віктар Скарабагатаў, які штогод ладзіць фестывалі "Адраджэнне Беларускай капэлы", працуе, у першую чаргу, на публіку падрыхтаваную, у нечым элітарную, дык Міхаіл Фінберг ахоплівае ўсю Беларусь — ад малых да старых. І справа зусім не ў колькасці слухачоў: зала на 400 месцаў, калі значную долю запрашэнняў распаўсюджвалі самі арганізатары, а астатнімі прэміявалі перадавікоў творчасці, — гэта яшчэ не зусім папулярызацыя. Нават тое, што фестываль здымала БТ, — доказ, на думку абывацеля, у параўнанні з тым, што праводзіў фестываль САМ Фінберг — той самы, якога пазнаюць на вуліцах і просяць аўтограф (на свае вочы бачыла) і якога клічуць у народзе па мянушцы "Угадай мелодыю". Дачыненне Фінберга да фестывалю камернай (!) музыкі падзейнічала, нібы рэкламны ролік з зоркай Галівуда: беларускімі творамі гэтых жанраў зацікавіліся не толькі выданні кшталту "Мастацтва", "ЛіМ", "Культура", але і звычайныя грамадска-палітычныя органы друку.

У выніку, у адпаведнасці з усімі законамі рэкламы, на канцэрце Ігара Алоўнікава з нагоды прэзентацыі фартэпіяннага зборніка Напалеона Орды, выдадзенага Беларускім інстытутам праблем культуры, можна было чуць ненастроены раяль: не ён жа галоўны! Затое ў адпаведнасці з тымі ж законамі мастацкую выставу адкрывала ўнучка знакамітага скульптара Андрэя Бембеля — Таццяна, а ўсе канцэрты вяла кандыдат мастацтвазнаўства Радаслава Аладава — дачка кампазітара, які стаяў ля вытокаў беларускай прафесійнай музыкі XX стагоддзя. Яны былі патрэбныя фестывалю не толькі як спецыялісты, а як сімвал сувязі эпох.

Сапраўднай сенсацыяй фэсту сталі не столькі апрацоўкі даўніны, колькі арыгінальныя архестравыя творы сучасных беларускіх кампазітараў: Галіны Гарэлавай, Уладзіміра Кур'яна, Аляксандра Літвіноўскага, Дзмітрыя Лыбіна, Ігара Паліводы. Казалі, іх паказ каштаваў музыкантам сямі месяцаў рэпетыцый, але гэта не болей, чым чарговы рэкламны выбрык: тыдні за два-тры ноты яшчэ ляжалі ў Саюзе кампазітараў. Бясспрэчна адно: дзякуючы дырыжору Валерыю Сароку выкананы яны былі з большай душой, чым звычайна беларускія прэм'еры, і прымусілі ўсіх у адзін голас усклікнуць: ды беларуская музыка куды лепей, чым мы пра яе думалі! Магу сцвярджаць: ні адзін са спектакляў з музыкай Уладзіміра Кур'яна, у тым ліку і "Ідылія", не прынёс кампазітару такога прызнання з боку прэсы, як нясвіжскае выкананне яго Канцэрта для цымбалаў з аркестрам, дзе натхнёна саліравала Наталля Кавалеўская.

Але не абышлося без прыкрых накладак. Не была выканана, хаця і адрэпеціравана музыка Дзмітрыя Смольскага: оперны тэатр не адпусціў саліста Жылюка — і Фінберг зарокся мець справу з "чужымі" вакалістамі. Не была выканана Сюіта Уладзіміра Кавальчука, хаця кампазітару спецыяльна заказвалі яе пералажэнне для аркестра: пасунуўшы астатнія справы, ён зрабіў аркестроўку ў тэрмін — і зарокся мець справу з "чужымі" выканаўцамі.

Увогуле ж канферэнцыя больш нагадвала мазаіку ці, па словах аднаго з удзельнікаў, крыгаход, дзе ўсе льдзінкі паасобку.

Але адчуванне мазаічнасці — звычайная рыса, відаць, усіх падобных фестываляў. Галоўнае — не згубіць за той пярэстасцю ас-

таталітарызму ў творчай сферы паэт Міхаіл Святлоў назваў вельмі рэзка і дакладна: "Дэмагогія, узведзеная ў ступень пачуцця".

Яшчэ не дастаткова апісаны механізм самаўзбуджэння аўтараў гэтых твораў, якія, адлюстроўваючы тое, чаго не было і не магло быць, кляліся ў сваёй праўдзівасці і пралівалі пры гэтым слязу аптымістычнага замілавання.



У беларускіх вёсках голад і скруха, а пішуцца палотны на тэмы "калгасных святаў", людзей масамі адпраўляюць у лагеры і турмы, а на партрэтах узнікаюць бадзёрыя, чыста паголеныя "сацыяльныя героі", якія нагадваюць кінаакцёра Сяргея Сталярова з "Цырка" альбо каваля Бусыгіна ў вядомай скульптуры таго часу М.Томскага. Натурай пры гэтым абіраліся не сапраўдныя рэаліі рэчаіснасці, а дадзеныя "зверху" дырэктывы і тэзісы, што інсцэніраваліся мастакамі ў выглядзе, вонкава падобным да жыцця.

І аўтарам іншы раз так удавалася згвалтаваць уласную душу, што яны па-свойму верылі ў створаныя імі ж малочныя рэкі і кісельныя берагі! Культавы "тэатр для сябе"! Асаблівага росквіту ён дасягне напрыканцы 40-х і ў пачатку 50-х гадоў. Але першая стадыя гэтай мастацка-таталітарнай эпапеі адносіцца, безумоўна, да 30-х гадоў, калі такі ""тэатр" быў яшчэ крыху наіўным, без адцення цынізму, што стаў пазней добра аплочваемым рамяством.

6 — 9 снежня 1938 года адбыўся І з'езд мастакоў Беларусі. І да і пасля яго беларускаму выяўленчаму мастацтву друк чадаваў асаблівую ўвагу. Я.Зайцаў, напрыклад, у артыкуле "Вучыцца майстэрству" прааналізаваў творчасць маладых мастакоў, адзначыўшы іх слабую сувязь "з вывучэннем жыцця", недастатковае веданне анатоміі, кампазіцыі, перспектывы. У той жа час яны "вельмі слаба падрыхтаваны палітычна". У выніку маладыя мастакі "сыходзяць на фармалістычныя пазіцыі, захапляюцца голымі фармальнымі пошукамі альбо натуралістычна-пасіўна адлюстроўваюць рэчаіснасць".

А.Глебаў у артыкуле "Мая новая праца" распавёў пра сваю кампазіцыю "Конны бой", што паказвае "новыя якасці чырвоных вершнікаў, уласцівыя савецкім людзям, якія горача любяць сваю Айчыну і самаахвярна абараняюць яе..."

З выступлення С.Андруховіча: "Праца над карцінамі, што адлюстроўваюць наш гераічны час, паказваюць герояў Сацыялістычнай Працы, выдатных савецкіх лётчыкаў і памежнікаў, патрабуе ад мастакоў глыбокай ідэйнасці. Гэта значыць, што пытанням палітычнага выхавання іх павінна быць нададзена выключная ўвага. Гэтага, на жаль, няма. Камсамольская арганізацыя працуе ў Саюзе мастакоў слаба. Уся савецкая інтэлігенцыя пачала глыбокае вывучэнне гісторыі партыі па новым падручніку. А ў нашым Саюзе пра гэта не думаюць..."

М.Керзін у выступленні на з'ездзе падкрэсліў, што аргкамітэт Саюза "недастаткова змагаўся за тэарэтычнае засваенне метаду сацыялістычнага рэалізму, супраць фармалізму і натуралізму". Галоўнай прычынай незадавальняючай працы аргкамітэта з'яўляецца, паводле словаў прамоўцы, недаацэнка палітычнай работы: "Асноўныя прычыны знаходзяцца ў яшчэ не зліквідаваных наступствах шкодніцтва, што сістэматычна праводзілі на фронце мастацтва самыя подлыя ворагі народа". Аналізуючы творчасць сваіх братоў па разцы, Керзін вылучыў А.Грубэ: "Скульптар... займаў на пачатку свайго творчага шляху фармалістычную пазіцыю. Ягоныя апошнія творы — статуі піянера і піянеркі, зробленыя для Палаца піянераў у Мінску — далейшыя крокі да сацыялістычнага рэалізму". Ён ухваліў А.Бразера за тое, што той "зрабіў несумненны крок наперад да адыходу ад імпрэсіяністычнага разумення задач скульптуры". Пра З.Азгура: "Скончыў надзвычай адказныя паводле тэматыкі і цікавыя паводле мастацкага вырашэння кампазіцыі "Маркс і Энгельс", "Ленін і Сталін", бюст-партрэт М.І.Яжова".

"Звязда" занепакоена пісала пра М.Тарасікава, які, маўляў, дапускае "шкодныя развагі пра фармалізм. Тэорыя фармалізму, у палоне якой Тарасікаў знаходзіўся некаторы час, аказваецца, зрабіла яму не шкоду, а пайшла на карысць. Аднак на з'ездзе гэтая з'ява не атрымала належнага адпору".

Старшыня Усесаюзнага камітэта па справах мастацтваў А.Лебедзеў у сваёй прамове на беларускім з'ездзе адзначыў, што, нягледзячы на шэраг удалых твораў, выяўленчае мастацтва Беларусі адстае ад мастацтва іншых рэспублік, таму што не "вынішчана самазаспакоенасць і не паўсюль яшчэ скончана з фармалістычнымі тэндэнцыямі ў асяроддзі мастакоў".

І, нарэшце, першы сакратар ЦК КП(б)Б П.Панамарэнка на вячэрнім пасяджэнні 8 снежня заклікаў беларускіх мастакоў "у самы найбліжэйшы час даць творы, што ўзбагацілі б мастацтва ўсяго Савецкага Саюза". Ён адзначыў, што "найгалоўнай умовай далейшых творчых поспехаў нашых мастакоў з'яўляецца іх ідэйнае ўзбагачэнне, авалоданне тэорыяй марксізму-ленінізму, вывучэнне найвялікшага дакумента нашай партыі — Кароткага курса гісторыі ВКП(б)".

Сёння ўсе гэтыя сентэнцыі ўспрымаюцца як трызненне вар'ятаў, але гэта было!

**Барыс КРЭПАК**

*На ілюстрацыях:*
*творы з "фондаў"*
*сацыялістычнага рэалізму.*



ноўную лінію. А яна, як мне здаецца, вызначана добра. Гэта — прапаганда беларускага сур'ёзнага мастацтва, якое мае свае глыбокія карані і далёкую будучыню. За адно гэта можна было дараваць фестывалю ўсе заганы, без якіх, прабачце, не абыходзіцца ніводная імпрэза: і празмерную колькасць урачыстых прамоў з нагоды адкрыцця-закрыцця, і крыху надакучыўшы (шэсць разоў гучаў) Паланез Агінскага ў аркестроўцы Эдуарда Фарберава, і недарэчнасці рэжысуры, калі на фоне музыкі абвяшчаўся спіс удзельнікаў канцэртаў, а артысты прызнаваліся ў каханні на фоне маркотных аркестрантаў, што чакаюць наступнага нумару.

Пэўна, з цягам часу, фестываль будзе пашыраць сваю арбіту: ужо зараз вяліся перамовы, каб зрабіць канферэнцыю Міжнароднай, каб пашырыць кола гарадоў і мястэчак, якія, падобна Нясвіжу, будуць прыцягваць увагу не толькі гістарычнымі помнікамі, але і мастацкімі імпрэзамі. Была прапанова дапаўняць фестываль не толькі лепшымі самадзейнымі калектывамі, але і дзіцячымі выступленнямі, увесці званне лаўрэатаў фестывалю. Ці спраўдзіцца ўсё гэта, невядома. Безумоўна адно: фестывалю — жыць!

**Надзея БУНЦЭВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# УЦЕХА ЦІ ТРАГЕДЫЯ ДЫПЛАМАТА АГІНСКАГА

Нядаўна ў Беларускай акадэміі музыкі адбылася сустрэча з Анджэем Залускім, сярод продкаў якога — аўтар неўміручага паланеза "Развітанне з Радзімай" Міхал Клеафас Агінскі.

Нашаму госцю ўжо за шэсцьдзесят, хоць у гэта цяжка паверыць, гледзячы на надзвычай энергічнага мужчыну, які з вялікай цікавасцю ўспрымае жыццё. Анджэй Залускі — піяніст і педагог. Жыве недалёка ад Лондана, куды яго сям'я, як і многія іншыя польскія сем'і, пераехала падчас другой сусветнай вайны. У апошнія гады спадар Анджэй руплiва вывучае матэрыялы, звязаныя з жыццём свайго славутага продка. У хуткім часе ў Англіі выйдзе кніга, пра Міхала Клеафаса Агінскага. А пачалося гэтае захапленне, можна сказаць, выпадкова, хоць, як кажуць, выпадковасць — праява найвышэйшай заканамернасці. Наш госць распавёў, што доўгі час ён увогуле не цікавіўся сваімі продкамі. "Я ведаў паланез Агінскага, але лічыў, што калі яго граюць на рынку ў Кракаве, дык няхай і граюць".

Аднойчы, падчас свайго адпачынку ў Закапанах у Паўднёвай Польшчы, ён пачуў, як на фартэпіяна гралі невядомую яму дагэтуль музыку. "Але што граюць? Грыг — не, можа быць Фільд?.. Шуберт — не, не Шуберт, хіба што Дусек?.. Музыканты ведаюць, што калі нешта гучыць, і ты не згадваеш дакладна што, гэта страшна!" Падышоўшы да раяля, Анджэй Залускі ўбачыў на яго пюпітры паланезы Агінскага. З таго часу яго цікаўнасць да музыкі Міхала Клеафаса перарасла ў сур'ёзнае вывучэнне біяграфіі, музычнай і літаратурнай спадчыны кампазітара.

Перадусім Анджэй Залускі замовіў для чытання "Мемуары" Агінскага — чатырохтомнік, які ў XIX ст. некалькі разоў выдаваўся на французскай і польскай мовах. Прачытаў і быў вельмі здзіўлены: "Нічога пра музыку! Усяго дзве кароткія згадкі пра ўласнае музіцыраванне". І сапраўды, на першы погляд гэта можа падацца дзіўным: чалавек, якому належыць опера "Зеліс і Валькур", а да таго ж цэлы шэраг надзвычай папулярных на той час у Еўропе паланезаў і рамансаў, нібыта наўмысна імкнецца не ўзгадваць усяго, што звязана з музыкай. Але прыглядзеўшыся больш пільна да асобы Агінскага, мы разумеем, што нічога дзіўнага тут няма. Агінскі, як сапраўдны арыстакрат, у сваіх "Мемуарах" хутчэй за ўсё спецыяльна клапаціўся пра тое, каб паказаць сябе як дыпламата, палітычнага і ваеннага дзеяча. Пісаць у "Мемуарах" пра музыку азначала б парушыць сур'ёзны тон гэтай працы. Да таго ж, князь па паходжанні, ён не мог называць сябе музыкантам, бо ў тую эпоху музыкай зараблялі на жыццё толькі людзі ніжэйшых класаў. Музычны ж бок сваёй дзейнасці Міхал Клеафас палічыў магчымым паказаць у асобнай кніжцы — "Лістах пра музыку". Яе, у адрозненне ад "Мемуараў", ён выдаваць не збіраўся, бо лічыў сябе аматарам у музыцы і таму, хутчэй за ўсё, пісаў гэтую кнігу толькі для самых блізкіх яму людзей.

Праз параўнанне абодвух літаратурных твораў Агінскага — яго "Мемуараў" і "Лістоў пра музыку" — мы можам многае зразумець пра самога Агінскага. "Мемуары" напісаныя як грунтоўная гістарычная праца, дзе аўтар ставіць за мэту паказаць адну з пераломных эпох у жыцці Еўропы — эпоху Французскай рэвалюцыі і падзелаў Рэчы Паспалітай, эпоху Напалеона і Аляксандра І. "Лісты..." ж — гэта толькі шэраг разнажанравых апавяданняў (успамінаў, рэцэнзій, эстэтычных нарысаў), якія ў асноўным адлюстроўваюць найбольш цікавыя эпізоды з мастацкага жыцця таго часу і найбольш яркія ўражанні самога Агінскага. Сур'ёзнасць і нават грунтоўнасць "Мемуараў" немагчыма супаставіць з бліскучай лёгкасцю "Лістоў пра музыку".

Па гэтых дзвюх, такіх розных кнігах, што пакінуў нам Агінскі, мы бачым яго імкненне замацаваць сваё імя ў гісторыі менавіта як палітыка. Але лёс распарадзіўся інакш: большасць з нас беспамылкова пазнае мелодыі яго паланезаў, а пра ролю Агінскага-дыпламата вядома толькі спецыялістам. Гэты факт яшчэ раз пацвярджае існаванне праблемы дыялагічнасці натуры Агінскага — праблемы суіснавання ў адным чалавеку палітыка па жыццёвым прызначэнні і музыканта па духоўным пакліканні. Нечаканыя вынікі гэтай дыялагічнасці Міхал Клеафас адчуваў ужо пры жыцці. Ці ж не было ўцехай музыканта і разам з тым трагедыяй дыпламата Агінскага тое, што ветліваму прыёму пры расійскім двары і вяртанню ягоных земляў дапамагла не яго ўплывовасць палітыка, а папулярнасць кампазітара? Ці не было па-свойму унікальным тое, што Агінскі ў прадмовах да выданняў сваіх твораў чытаў падрабязнасці пра ўласную смерць — легенды, якія паўставалі ў Еўропе з прычыны вымушанай палітычнай эміграцыі Міхала Клеафаса і яго нечаканага знікнення са сталічных свецкіх колаў?..

Пытанне, кім быў і застаўся для нас Агінскі — палітыкам ці музыкантам, дыскутуецца і па сённяшні дзень, калі пасля ягонай смерці мінула ўжо больш за 150 гадоў. Наш госць, Анджэй Залускі лічыць, што Агінскі-гісторык больш цікавы за Агінскага-музыканта. Ён не пагаджаецца з насцярожанасцю і нават з непрыняццем "Мемуараў" польскімі гісторыкамі, на думку якіх, гэтая кніга, напісаная Агінскім у канцы жыцця, утрымлівае шмат неўдакладненых, напаўзабытых фактаў. Сам спадар Залускі мяркуе, што верыць успамінам Міхала Клеафаса ўсё ж такі можна, бо, як сведчаць дакументы, Агінскі быў чалавекам вельмі дакладным і акуратным у справах. Ён пастаянна занатоўваў тагачасныя падзеі, пісаў успаміны, шмат з якіх, дарэчы, яшчэ не апублікаваныя і чакаюць свайго даследчыка. Да таго ж Агінскі ўласнаручна рабіў копіі ўсіх сваіх лістоў да сяброў і знаёмых. Адной з магчымых прычын недаацэнкі польскімі даследчыкамі Агінскага-гісторыка можа быць тое, што ён, пасля непасрэднага ўдзелу ў касцюшкаўскім паўстанні, вымушаны быў схіліцца на бок Расійскай імперыі і на працягу досыць доўгага часу займаць пасаду сенатара...

На развітанне Анджэй Залускі сыграў прысутным некалькі чароўных фартэпіянных твораў Міхала Клеафаса Агінскага...

**Святлена НЕМАГАЙ**

# КАЦЯРЫНА ДРУГАЯ З РОДУ АЛЬГЕРДА

Упэўненая: прачытаўшы гэты загаловак, любы чалавек, больш-менш знаёмы з гісторыяй, падумае, што аўтарка, мякка кажучы, нешта такое напрыдумляла... Ужо ж напісала ў кнізе "Паміж Масквой і Варшавай" пра віцебскія карані Кацярыны Першай, дык яшчэ і на Другую замахнулася...

Аднак усіх апанентаў адсылаю да толькі што выдадзенай у Бранскім выдавецтве "Грани" кнігі М.Ціханава "Славные витязи Трубчевска". Аўтар, дырэктар краязнаўчага музея, чый партрэт з мноствам ордэнаў і медалёў змешчаны на пачатку кнігі, узяўся за цікавую працу — напісаць не толькі пра сучасных трубчан, але і пра род Трубяцкіх, чый сямейны магільны склеп і дасюль захаваўся ў ніжняй частцы Троіцкага сабора.

Трубяцкія — вядомы ў Расіі род, сярод прадстаўнікоў якога найбольш вядомы, бадай што, Сяргей Пятровіч, палкоўнік, удзельнік вайны 1812 года, які 30 гадоў правёў на катарзе ў Сібіры. Але якое дачыненне мае гэты род да нашай гісторыі?

Каб адказаць на гэтае пытанне, зазірнем у апошнюю чвэрць XIV стагоддзя, калі вялікім князем Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага стаў малодшы, самы любімы сын Альгерда і цвярской князёўны Ульяны — Ягайла. Як адзначалі летапісцы, стол быў перададзены не самаму лепшаму з дванаццаці сыноў Альгерда, сярод іх найбольшай славай карыстаўся яшчэ пры жыцці Вітаўт, празваны Вялікім. Астатнія сыны Альгерда, атрымаўшы свае ўдзелы, вядома, не вельмі радаваліся ўкняжанню менавіта Ягайлы, і нездарма адзін з братоў, Андрэй Полацкі, пасля няўдалай спробы аспрачыць вялікае княжанне з'ехаў у Маскву разам з сынам Міхаілам, які пасля загінуў на службе ў Дзмітрыя Данскога.

Не будзем падрабязна расказваць пра кожнага з сыноў Альгерда. Нас цікавіць цяпер менавіта Дзмітрый, уладар Бранска, празваны Трубцом, які стаў пачынальнікам роду Трубяцкіх. Мабыць, незадавальненне сваім братам Ягайлам было такое моцнае, што ў час вайны з Маскоўскім княствам ён не стаў абараняць свае бранскія землі, а, вышаўшы з горада насустрач Дзмітрыю Данскому разам са сваёй княгіняй і дзецьмі, перайшоў да яго на службу, за што быў прыняты "з гонарам і з многаю любоўю". Адбылося гэта ў 1379 годзе.

Праз 320 гадоў адзін з нашчадкаў гэтага роду князь Іван Юр'евіч Трубяцкі, трапіўшы ў палон падчас шведскай вайны, быў запрошаны да каралеўскага двара ў Стакгольме. Там, абкружаны прыдворнымі дамамі, ён не марнаваў часу: у 1704 годзе ў адной з гэтых прыгажунь, баранэсы Вердэ, нарадзіўся хлопчык, якому пры хрышчэнні далі імя Іван, але прозвішча бацькі змянілі, адняўшы ў пазашлюбнага княскага сына тры першыя літары. Бацька, вяртаючыся з палону, забраў у Расію свайго 14-гадовага сына.

Іван Бяцкі (альбо як яго называюць некаторыя гісторыкі — Бецкі) постаць, добра вядомая гісторыкам. Нават у сучасных энцыклапедычных слоўніках ён значыцца як дзеяч асветы другой паловы XVIII стагоддзя, пачынальнік жаночай сярэдняй адукацыі ў Расіі, у гонар якога быў заснаваны імянны медаль. Доўга было б тут нагадваць ягоныя тытулы і рэгаліі — за доўгае жыццё (ён пражыў амаль усё XVIII стагоддзе, памёр у 1795 годзе ва ўзросце 91 года) зроблена было нямала. Аднак жа гісторыкі апошняга часу асабліва цікавяцца 1728 годам, калі 24-гадовы малады дыпламат у Парыжы пазнаёміўся з жонкай губернатара горада Штэціна, прынцэсай Ангальт-Цэрбст Іаанай Лізаветай. Інтрыганка, шпіёнка, няўседлівая авантурыстка, яна ўскружыла галаву не толькі Бяцкому. Аднак менавіта пра дзяўчынку, што нарадзілася ў яе 21 красавіка 1729 года, адзін з князёў Трубяцкіх Сяргей Рыгоравіч напісаў як пра дачку расійскага дыпламата. У кнізе "Казанне аб родзе Трубяцкіх" ён узгадвае пра архівы Брытанскага музея, дзе захоўваюцца "лісты імператрыцы Кацярыны II да яе бацькі І.І.Бецкага".



Ці было гэта праўдай? Хто можа сказаць напэўна? Чытаючы рускіх гісторыкаў, заўважаеш толькі, якое важнае значэнне меў менавіта гэты чалавек у час узвядзення на расійскі стол нямецкай прынцэсы Софіі Аўгусты з дробнага гальштэйн-гаторпскага княжацкага роду, якая стала пазней Кацярынай II. Гісторык В.Ключэўскі, напрыклад, піша: "Бецкі наіўна думаў, што 28 чэрвеня адбыўся звыклы гвардзейскі пераварот, якому ён сам садзейнічаў, падгаворваючы гвардзейцаў і кідаючы грошы ў народ, і таму лічыў сябе галоўным яго віноўнікам. Аднойчы, уварваўшыся да Кацярыны, ён на каленях маліў яе сказаць, каму абавязаная за ўцараванне лічыць яна сябе сама. "Богу і абранню маіх падданых", — быў адказ, ад якога Бецкі прыйшоў у роспач, так што пачаў быў здымаць з сябе аляксандраўскую стужку, палічыўшы, што не варты яе, калі так не прызнаюць ягоныя заслугі". Вядома таксама, што памёр ён ледзь не на каленях Кацярыны, якая перажыла яго толькі на адзін год. Аўтар кнігі "Славные витязи Трубчевска" лічыць гэта за доказаны факт. Сапраўды, складанаю і часта надта падазронаю бывала ў гісторыі дынастыйная чысціня, і нездарма М.Булгакаў гаворыць сваёй Маргарыце аб яе каралеўскай крыві, аб чым і не падазрае сама сяброўка Майстра. Але калі ўявіць сабе, што ў жылах Кацярыны II былі кроплі Альгердавай крыві, міжволі думаецца, што тыя чатырыста гадоў, якія ляжаць між імі (Альгерд памёр у 1377 годзе), складаюць не так і шмат пакаленняў. Падлічыць і вызначыць, якія менавіта ўчынкі імператрыцы абумоўліваліся гэтымі кроплямі ці, як цяпер кажуць, малекуламі ДНК, пад сілу, мабыць, толькі Воланду, а калі гаварыць усур'ёз, дык ёсць усё-такі паміж імі адна агульная рыса, але яна характэрная для ўсіх, з рэдкімі выключэннямі, манархаў — прага да бязмежнага пашырэння сваіх уладанняў. Альгерд зрабіў Вялікае княства Літоўскае магутным і грозным ад Балтыйскага да Чорнага мораў. Да Чорнага мора "прарвалася" і Кацярына, пры ёй жа была падзеленая на часткі Польшча, а землі Вялікага княства Літоўскага адышлі да Расіі, што выбухнула на нашай зямлі паўстаннем Т.Касцюшкі, а пазней — К.Каліноўскага. Аднак не ўсе яе ваяўнічыя задумы спраўдзіліся, як, напрыклад, зусім ужо фантастычны праект апошняга фаварыта гэтай манархіні, аднаго з тых яе набліжаных, пра каго В.Ключэўскі піша: "бойкія і смелыя ігракі ў лёс, што лёгка перакройвалі карту Еўропы, складалі планы разбурэння ўжо існуючых дзяржаў і аднаўлення некалі існуючых, якія крэслілі будучыя межы Расійскай імперыі з шасцю сталіцамі (Санкт-Пецярбург, Масква, Берлін, Вена, Канстанцінопаль, Астрахань — паводле праекта Платона Зубава".

Калі зірнуць на расійскую імператрыцу як на магчымы, хаця і даўні, хаця і патаемна-грэшны атожылак Альгердавага дрэва, можна толькі ў каторы раз падзівіцца прыхаматлівым звівам Лёсу, які прыводзіць да троны тых, каму суджана ці то прадоўжыць справы сваіх папярэднікаў, ці то дашчэнту знішчыць іх. Акунаючы дзіду ў Чорнае мора ў знак свайго валадарства, ці задумваўся Альгерд над тым, што застанецца ад яго магутнай дзяржавы праз стагоддзі? Што будуць рабіць праз стагоддзі ягоныя нашчадкі, ці зберагуць, ці аддадуць усё чужым? Але мінулае адгукаецца ў нас і, углядаючыся праз стагоддзі ў тое, што было, ці навучымся мы думаць аб тым, што будзе?

**Вольга ІПАТАВА**

*На рэпрадукцыі: А.Бенуа. У лагеры кацярынінскіх салдат.*

# БЕЛЫЯ АДЗЕННІ

*(Працяг. Пачатак у №16.)*

Простыя беларусы ў сваёй большасці не былі ваеннымі людзьмі — ліхімі коннікамі, удалымі рубакамі, спрытнымі здабытчыкамі. У гэтым іхні менталітэт рэзка адрозніваўся, скажам, ад казацкага насельніцтва Украіны. Зноў жа, паўднёвае сонца і паветра п'янай свабоды, вялікая колькасць бесшабашных галоў, што, збегшы ад прыгонніцтва, сабраліся на паўднёвых прасторах, добра апрабаваная ў сутыкненнях з іншаземцамі зброя — усё гэта стварыла на паўднёвых і ўсходнепаўднёвых межах моцны разбойны рух з усімі яго непазбежнымі крайнасцямі. Так узніклі знакамітыя разіншчына і пугачоўшчына, што раскідалі іскры будучага полымя і ў сялянскіх вёсках.

На Беларусі казацтва ўзнікнуць не магло — мясцовае сялянства было сціснута міжфеадальнымі межамі, знешнімі граніцамі, прыроднымі лясамі, польска-літоўскімі ваеннымі фарміраваннямі, яму проста няма куды было збягаць і ствараць у межах роднай мясцовасці ўзброеныя фарміраванні. Толькі і ўспыхвалі тут моцныя бітвы і паўстанні, калі з поўдня прыходзілі казакі — тады адбывалася ўсё, што звычайна суправаджала такія падзеі гісторыі, і тут ужо бессэнсоўна весці размову пра стыхійны гуманізм беларусаў — пекла не магло парадзіць анёлаў, яно заўсёды было прыстанкам д'ябла. Былі выпадкі і самастойных дзеянняў лясных разбойнікаў, гарадскіх паўстанцаў, даведзеных да апошняй мяжы вяскоўцаў. Заўсёды, аднак, над інсургентамі навісала пагрозлівая хмара немінучага і хуткага пакарання за бунт — войскі прыгнятальнікаў былі недалёка, умовы для паспяховага ўзброенага змагання адсутнічалі цалкам, прэцэдэнтаў народных перамог у гістарычнай памяці беларусаў накшталт успамінаў рускага сялянства пра подзвігі Разіна і Пугачова — таксама не было. Дзякуючы ўсяму гэтаму пэўным чынам нараджалася псіхалогія бяссілля, асуджанасці, дарэмнасці ўсякай барацьбы.

Народ, які меў вельмі абмежаваныя магчымасці для дзейснай барацьбы, можна было пакарыць фізічна, але значна цяжэй было зрабіць гэта духоўна, завалодаць розумамі і сэрцамі пакораных, і пакуль яны стаялі насупраць заваёўнікаў — маўклівымі, змрочнымі, апусціўшымі рукі, але па-ранейшаму ворагамі — пра канчатковую перамогу над імі гаварыць было нельга. Па-рознаму ўсведамлялі сабе гэтыя абставіны розныя заваёўнікі беларускіх зямель, па-рознаму яны дзейнічалі для дасягнення сваіх мэтаў. І, здаецца, поспехі іншаземцаў былі ў прамой прапарцыянальнай залежнасці ад таго, наколькі ўважліва яны ўлічвалі ў сваёй экспансіі адзначаную рысу беларускай ментальнасці, наколькі выкарыстоўвалі абходныя манеўры, спробай закончыць справу згодай і "залатой сярэдзінай", а не білі ўпарта і настойліва проста ў лоб.

У грамадска-палітычнай думцы беларусаў большы аўтарытэт заўсёды мела барацьба за гуманістычныя ідэалы шляхам маральнага ўдасканалення грамадства, дасягнення сацыяльнага прагрэсу праз агульную згоду, дух асветніцтва, высокамаральныя памкненні і справы лепшых людзей нацыі. Для вельмі многіх беларусаў, што належалі да пануючага саслоўя, хрысціянская мараль у яе лепшым разуменні была далёка не пустым гукам, а сэнсам і асновай жыцця. Ужо пачынаючы з Кірылы Тураўскага яны шчыра клапаціліся пра лёс падначаленага насельніцтва і заклікалі маючых уладу быць спагадлівымі і літасцівымі да абяздоленых грамадзян. Аб мудрым манарху, які б шчыра дбаў пра шчаслівае жыццё сваіх падданых, марыў Скарына. Сялянскіх дзяцей вучыў у сваёй школе Казімір Лышчынскі. Унутраная патрэба душы і сэрца, відаць, кіравала ўчынкамі Антонія Тызенгаўза, калі ён ствараў прафесійныя школы для выхадцаў з народа і далучаў да высокага мастацтва пад кіраўніцтвам замежных настаўнікаў-маэстра сялянскіх хлопцаў і дзяўчат, лёс якіх з самога нараджэння быў вызначаны іх прыгонніцкім станам. Верыў у тое, што добрыя норавы з цягам часу стануць асновай паміж мужыком і яго гаспадаром, Дунін-Марцінкевіч. А ў ягоных творах мы знаходзім наіўныя малюнкі патрыярхальнага жыцця беларускай вёскі, у якіх, аднак, сам драматург не бачыў нічога фантастычнага.

На рэформы і добрую волю найбольш дальнабачных дзяржаўных дзеячаў, а не на раз-

# ДОБРАЯ ДОЛЯ — З ПЕЧЫ ПЛАМЯНЁМ

У даўніну, калі ў беларускай вёсцы пеклі вясельны каравай, цэнтрам абраду рабілася печ. Як сведчыць вядомы беларускі этнограф мінулага стагоддзя М.Федароўскі, усё адбывалася наступным чынам. Спачатку сват, узяўшы яловае памяло, вымятаў дачыста печ. Потым, калі ўжо быў замешаны каравай, сват браў у рукі лапату і хрысціў ёю печ, затым адна з каравайніц пасыпала лапату аўсом. Пасля таго як каравай саджаўся ў печ, прысутныя танцавалі, а дзяўчаты, час ад часу падыходзячы да печы, спявалі абрадавыя песні. Калі каравай быў гатовы, старшая каравайніца звярталася да свата з наступнымі словамі: "Бяры, сваце, залаты меч і сярэбраную сякеру, будзем мечам рубіці печ і каравай даставаці..." (Прызыў каравайніцы рубіць печ азначаў, што каравай спёкся такі вялікі, што яго быццам бы нельга дастаць з печы, не разрубіўшы яе сімвалічным мечам.) Пасля гэтага сват, схапіўшы лапату, хуценька падбягаў да печы і, адняўшы заслону, вымаў каравай.

У беларусаў, як і ў іншых славян, печ у жытле здаўна адыгрывала вялікую сімвалічную і абрадавую ролю. Заўсёды ў народзе сямейнаму ачагу надавалася асобае значэнне. Як сімвал сямейнага дабрабыту па старажытнай традыцыі ў печы падтрымліваўся своеасаблівы "нязгасны агонь" — частка незгарэлага вуголля на прыпечку прыкрывалася попелам і ў нязгасным стане захоўвалася на працягу сутак, каб з раніцы ізноў запаліць печ. Калі вуголле гасла, гэта лічылася дрэннай прыкметай.

З печчу як з дамашнім ачагом звязвалі думкі пра дабро, шчасце і ў час вяселля. Так, маладая, ад'язджаючы з бацькоўскай хаты, прычытала:

*Добрая доля, ды ідзі за мной*
*З печы пламянём, з хаты камінам!*

У адной жа з жартоўных вясельных песень печ рысавалася як крыніца невычарпальнага багацця ў хаце жаніха:

*... у маладога,*
*Сама печ хлябы пячэ,*
*А з-за печы вада цячэ.*

Печ як сімвал дабрабыту выступае і ў хрэсьбінным абрадзе: перад хрышчэннем дзіцяці хросная маці ў рукаў кашулі, у якую закручаны нованароджаны, разам з хлебам-соллю і грашыма кладзе кавалачак "пячыны" (гліны з печы) — усе гэтыя прадметы, лічылася, маглі паспрыяць таму, каб дзіця ў будучым ні ў чым не мела недахопу.

У рытуальным значэнні печ у хаце адыгрывала не меншую ролю, чым чырвоны кут, "покуць", дзе знаходзіліся абразы, яна заўсёды размяшчалася насупраць чырвонага кута, супрацьстаяла яму. І гэта не выпадкова. У адрозненне ад покуці, якая выходзіла на ўсход, на святло, печ указвала на захад, на цемру. Калі з покуццю звязвалася ўсё ўзнёслае, светлае, то з печчу — таямнічае, цёмнае, але таксама важнае для жыцця чалавека. Калі покуць з'яўлялася хрысціянскім цэнтрам хаты, то печ, можна сказаць — паганскім. Так, менавіта ў паганскай рэлігіі старажытных славян, для якой характэрны быў культ агню, печ мела свяшчэнны характар. У старажытных славян-язычнікаў існавалі своеасаблівыя печы-ахвярнікі, каля якіх вернікі выконвалі свае рэлігійныя абрады. У адной са старажытных беларускіх песень, запісаных у мінулым стагоддзі этнографам В.Бяссонавым, ёсць радкі, у якіх адзначаецца ўдзел печы-ахвярніка ў язычніцкім набажэнстве:

*А хадзілі дзецюшкі богу памаліцца:*
*То-то!*
*Стоўб абдымалі, печ цалавалі.*



Адгалоскі старажытнага паганскага культу агню праяўляліся ў пэўных беларускіх народных абрадах, звязаных з печчу, ажно да пачатку нашага стагоддзя. Так, на масляныя дзяды з раніцы з рытуальнай мэтай у хаце звычайна распальвалі печ — масленіца была святам нябеснага агню, павароту сонца на лета, таму ў яе гонар запальваўся і агонь зямны, агонь у печы. З культам "агню-багача", хатняга духа-продка, быў звязаны і так званы абрад "Жаніцьбы коміна". Да гэтага абраду комін упрыгожваўся ручнікамі, кветкамі, стужкамі.

Агонь у печы "частавалі" гарэлкаю, кідалі ў полымя кавалачкі сала, зерне, арэхі.

З печчу ў беларусаў быў звязаны і шэраг іншых абрадаў. Так, у перыяд вялікіх дажджоў, каб спыніць мокрадзь, спальвалі ў печы зяляніну, якую захоўвалі з часу Тройцы. У дадзеным выпадку магутнай стыхіі вады проціпастаўлялася не менш магутная стыхія агню. З печчу звязвалі і розныя замовы.

Каля печы, у запечным куце, так званым качарэжніку, дзе стаялі прылады для печы, тварыліся ўсялякія заклінанні. Пры варажбе знахар гукаў свае заклінанні ў комін печы. Каля коміна, на гарышчы, займаліся варажбой дзяўчаты: напрыклад, ноччу на Шчадраца, размясціўшыся менавіта ў гэтым месцы, яны ставілі шклянку з вадою на люстэрка і кідалі ў дванаццаць гадзін туды заручальны пярсцёнак, потым глядзелі ў ваду з надзеяй убачыць жаніха.

Трэба сказаць, што печ і непасрэдна ўдзельнічала ў варажбе. Так, напярэдадні Раства раніцой вымяталі попел з печы і выносілі яго на двор — у якім баку ў гэты час забрэшуць сабакі, адтуль і будзе жаніх для дачкі ці нявеста для сына. На Шчодрыкі дзяўчаты лавілі вераб'я і кідалі яго ў натопленую печ — калі птушка выляціць з печы, то і дзяўчына выляціць з хаты, калі ж не — то ёй заставацца пакуль дома.

Сакральны характар, які мела ў хаце печ, выклікаў да яе вялікую павагу людзей. Жадаючы засароміць брыдкаслова, яму казалі: "Печ у хаце!" — маўляў, пры печы нельга гаварыць такія словы. Асобая павага да печы абумоўлівалася і тым, што печ у хаце выступала таксама як сімвал дзядоў-продкаў. Нездарма ж у беларусаў кутні слуп печы зваўся "дзедам" і атаясамліваўся з дамавіком як духам продка-гаспадара хаты, заступніка сям'і. Таму не дзіва, што некаторыя з абрадаў ахвяравання продкам, што праводзіліся ў хаце, звязваліся з печчу. Напрыклад, у час вяселля маладыя павінны былі лыжкай кінуць абрадавую кашу на печ духу памерлага гаспадара хаты. Напэўна, ад ахвяравання продкам узнік і такі абрад. На парадзіху на шэсць тыдняў накладваліся розныя забароны, у тым ліку ёй забаранялася хадзіць у госці. Калі ж у гэтым была ўжо такая вялікая патрэба, жанчына павінна была ўзяць з сабою кавалачак хлеба і пакласці яго на прыпечку ў доме, куды яна пайшла ў госці, каб у гэтых людзей не біўся посуд — гэта значыць каб продкі не злаваліся на парушэнне забароны.

Але печ не толькі паважалі, а некалькі яе і пабойваліся — з ёю былі звязаны некаторыя непрыемныя прыкметы. Так, лічылася, што калі стане трашчаць печ з левага боку, то памрэ гаспадыня, калі ж затрашчыць з правага боку, памрэ гаспадар. Выпадзенне ж з печы палена ці цагліны прадвяшчала распад сям'і.

Пэўны страх перад печчу і сувязь з ёю непрыемных прыкмет паходзіць ад таго, што печ была сімвалам культу агню, стыхія ж агню для чалавека была не толькі жыватворнай, але часам і згубнай, несучы знішчальныя пажары.

Насцярожанасць адносін да печы як умяшчальні не толькі карыснай, але і небяспечнай, грознай для людзей стыхіі агню давала падставу бачыць у ёй саюзніка "нячыстай сілы". Лічылася, што праз комін уначы ў хату можа ўвайсці чорт. Расказвалі, што праз комін чэрці ў выглядзе вогненных змеяў лётаюць да сваіх жонак-вядзьмарак. Каб уберагчыся ад Мары — жудаснай істоты, якая, пранікаючы ў хату, шкодзіць гаспадарам, — трэба на ноч перад сном закрываць комін. У печы, лічылі, ведзьмы сушаць свае чароўныя зёлкі, якімі потым наводзяць сурокі на людзей. У адной з беларускіх песень пелася:

*Выпеклі ведзьме вочы:*
*Каб у ночы не хадзіла,*
*Каб і росы не збірала,*
*Каб у печы не сушыла...*

Цікава таксама, што ў народнай казцы "Праварна Ярыжка" (са зборніка Е.Раманава) вядзьмарка Васіліса Дыяболска карону, што выйграла ў карты ў царэвіча, схавала не дзе-небудзь, а замуравала ў печ.

З печчу былі звязаны і розныя нячысцікі, што сяліліся ў хаце. Так, пад печчу ці на печы жыў дамавік, дух-заступнік сям'і. Часам ён даваў аб сабе знаць грукатам у коміне. Гаварылі, што дамавікі жывуць усюды, дзе ёсць печ. На печы ці ў падпечку, як думалі, жылі таксама кікімары — душы заўчасна памерлых нехрышчоных дзяўчынак. Яны нябачна прыстунічаюць у хаце,назіраючы за гульнямі жывых дзяцей. Кікімары зусім бясшкодныя істоты. Што нельга сказаць пра злыдняў, якія таксама жывуць пад печчу. Гэтыя нячысцікі ўяўляюць сабой малыя, гарбатыя стварэнні ў вялікіх ботах і шапках, забраўшыся ў якую-небудзь хату, яны з-пад печы вядуць напады на жытло, усё псуючы і крадучы рэчы хатняга ўжытку.

Такім чынам, мы бачым, што да печы ў хаце адносіны былі неадназначныя. Яе паважалі, яна была сімвалам сям'і, сямейнага дабрабыту, сімвалам сувязі з продкамі, але яе і пабойваліся, звязвалі з ёю непрыемныя прыкметы. Народная фантазія сяліла на печы розных дамашніх нячысцікаў. Печ і сёння ў сялянскай хаце мае вялікае значэнне як крыніца цяпла, як месца, дзе гатуюць ежу і пякуць духмяныя хлябы, хоць дзе-нідзе яе пачынаюць цясніць газавыя пліты. Канешне, забыліся многія забабоны, якія раней звязваліся з печчу, не вераць сучасныя сяляне ў дамавікоў, кікімар і іншых нячысцікаў, печ не мае ўжо той сакральнасці, як у даўніну, але яе роля як сімвалічнага цэнтра ў хаце, дамашняга ачага ўсё ж у пэўнай ступені захоўваецца ў народным усведамленні і сёння. Таямніча патрэскваюць у печы дровы, заварожвае калыханне языкоў жоўтага полымя пад высокім зводам чалесніка. Гарыць свяшчэнны сямейны ачаг, засцерагае дом ад бяды і небяспекі белы велікан, старая вялікая печ.

**Якаў ЛЕНСУ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**
**Малюнак аўтара**

# БЕЛАРУСАЎ

буральныя рэвалюцыйныя дзеянні спадзяваліся і большасць беларускіх адраджэнцаў пачатку XX стагоддзя. У той жа час — чым далей, тым больш — яны ўсведамлялі сабе, што зрабіць для беларусаў нешта добрае могуць толькі самі беларусы, калі атрымаюць нацыянальныя, палітычныя і культурныя правы, неад'емныя ад жыцця кожнага цывілізаванага грамадства.

Гуманізм беларускай культуры ніколі не насіў абстрактнага характару, ён заўсёды меў аб'ектам не сляпы натоўп і размытую народную масу, а канкрэтнага жывога чалавека, годнасць і правы якога абараняў з усёй магутнасцю слова, думкі, мастацкага вобраза. Чалавек быў галоўнай каштоўнасцю нацыянальнай культуры і ў самыя змрочныя і складаныя часы для Бацькаўшчыны. Гэта яскрава адбілася ў творчасці Ф.Скарыны, які з такой магутнай творчай сілаю намаляваў дасканалы ідэал высокамаральных адносін паміж людзьмі ў грамадстве. Сваю асабістую дзейнасць ён разглядаў найперш менавіта як служэнне агульнаму дабру, як выкананне свайго абавязку перад народам, "братьями русью" і радзімай — гэтая думка выразна праводзіцца ім у кожнай прадмове і пасляслоўі да яго ных кніг. Галоўнай якасцю чалавечых узаемаадносін, важнейшай маральнай дабрачыннасцю чалавека Скарына лічыў любоў. "Каждый христианин, — пісаў вялікі гуманіст, — наиболей любовь ко всим да соблюдаеть, еже есть совершена над все иныя дарования, без неё же ничто проспешно ест".

Мара аб прыгожым і дасканалым чалавеку, шчырых і светлых адносінах паміж людзьмі была ў цэнтры творчасці беларускіх мастакоў, аўтараў шматлікіх абразоў і партрэтаў. З незвычайнай духоўнай сілай яна праявілася ў іканапісным мастацтве, лепшыя ўзоры якога дасягалі небывалых вышынь у пошуках боскай мудрасці на зямлі. Характэрнымі рысамі беларускага сакральнага мастацтва былі асаблівая мяккасць і пяшчота, непадробная чалавечая цеплыня ў перадачы твараў персанажаў абразоў, што падкрэсліваецца шчодрай дэкаратыўнасцю. За кожным створаным вобразам — шчырае нераўнадушнае пачуццё, якое імкнецца паказаць вышэйшае хараство свету, адказаць на нейкае вечнае пытанне, што не аднойчы задаваў сабе чалавек. Адказы гэтыя носяць менавіта беларускі, глыбока гуманістычны характар — яны прасякнуты дабрынёю, святлом, любоўю.

Адным з найбольш яскравых прыкладаў з'яўляецца вядомы твор мастака Пятра Яўсеевіча з Галынца "Раство Марыі" (1649). Маляўніча і любоўна тут паказаны святочны момант у жыцці чалавека, прычым персанажы гэтага невялічкага радаснага спектакля надзвычай пераканаўчыя і жыццёвыя ў сваёй шчаслівай мітуслівасці. На іхніх тварах мы чытаем розныя думкі, з якіх складаецца сэнс жыцця. Гэта заклапочанасць Марыі сваім далейшым лёсам, ласкавасць і пяшчота жанчын да нованароджанага дзіцяці, сардэчная дабрыня служанак Марыі, шчаслівая адлучанасць Іосіфа, што сядзіць у кутку.

У XIX стагоддзі гуманістычныя матывы беларускага партрэтнага мастацтва набываюць больш дэмакратычны характар і ўвасабляюцца ў пранікнёных вобразах простых грамадзян мясцовага краю, кожны з якіх адлюстроўвае пэўны бок светлага і сумнага, чыстага і мірнага, пакутлівага і пяшчотнага беларускага аблічча. Чым прыкметныя ўсе гэтыя ўвасобленыя ў фарбы беларусы — прыгонныя сяляне і наведнікі карчмы, героі-паўстанцы і мудрыя мастакі, збяднелыя шляхцічы і заклапочаныя старыя? У кожнага з іх свая філасофія жыцця і свае духоўныя каштоўнасці, сярод якіх, аднак, часцей вылучаецца тое агульнае, галоўнае, для чаго мастак браўся за пэндзаль. Гэта — аўтарытэт добрага розуму і справядлівага сумлення, да якіх у пошуку праведнага шляху жыцця звярталіся адначасова мастак і народжаны ім незабыўны вобраз.

Зло рабілася ў жыцці жорстка і няспынна, беларусам, можа, болей, чым каму-небудзь яшчэ. Як маглі змагацца з ім беларускія мастакі? Што процістаўлялі яму іхнія героі? Толькі адно — свой пільны пранізлівы погляд проста ў вочы гледача. Так глядзіць свянцянскі пастух з карціны Нікадзіма Сілівановіча (1891). І здаецца, у гэтым трохі дакорлівым позірку — сама шматпакутлівая беларуская душа, знясіленая многімі стагоддзямі сваіх жорсткіх блуканняў, змарнаваная ў дарэмных надзеях.

(Заканчэнне будзе.)

**Сяргей КВІЦЕНЬ**

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ПІСЬМЕННІЦКІЯ ШЛЮБЫ

Жэняцца матэматыкі і фізікі, спартсмены і артысты... Часам такія пары, калі муж і жонка — аднае прафесіі, вызначаюцца трываласцю. Яно і зразумела: роднасць, блізкасць інтарэсаў. Магчыма — сумесная праца. Але здараецца і наадварот. Зразумела і гэта. Асабліва ў дачыненні да творчых прафесій. Няпроста вытрываць напружанасць жыцця свайго сямейніка. Асабліва, калі і сам гэтым напружаным жыццём жывеш, калі асабіста да сябе патрабуеш больш пільнай увагі.

Цікава, а што дзеецца з "літаратурнымі" шлюбамі ў беларускім пісьменніцтве? Ці шмат сямейных пар працавала, працуе?.. Каб адказаць на гэтае пытанне, відаць, мала адной толькі інфармацыі з энцыклапедый і літаратурных даведнікаў. І ўсё ж паспрабуем расказаць пра літаратурных сямейнікаў у беларускай літаратуры.

Малавядомае імя ў гісторыі паэзіі — Наталля Вішнеўская (нарадзілася ў 1897 годзе, памерла ў 1989, у Ленінградзе). Разам з Зінаідай Бандарынай і Яўгеніяй Пфляўмбаўм у 1926 годзе выдала зборнік "Вершы". Наталля Вішнеўская пабралася шлюбам з Алесем Дударом, паэтам, крытыкам, перакладчыкам, аўтарам дзевяці арыгінальных кніжак (у 1937 быў рэпрэсіраваны).

Трывалае месца ў беларускай літаратуры займае імя Максіма Гарэцкага. Меней ведае чытач яго жонку — дзіцячагаа празаіка Леанілу Чарняўскую (1893 — 1976). Першая яе кніга выйшла ў 1919 годзе — "Дзіцячыя гульні". А ўсяго пабачыла свет чатырнаццаць яе кніг. Леаніла Чарняўская — аўтар чытанкі "Родны край" для 1, 2, 3 года навучання (1919, перавыдавалася да 1936 года).

Ужо няма, на жаль, сярод жывых блізкіх нашых суайчыннікаў Міколы Федзюковіча і Галіны Егарэнкавай. Таленавіты паэт і выдатны крытык, яны былі мужам і жонкай. Праўда, разышліся, яшчэ не адышоўшы на той свет. Свой прыгожы, сур'ёзны след у беларускім літаратуразнаўстве пакінула Ала Кабановіч (1943 —1985), жонка пісьменніка і крытыка Міхася Тычыны. Ала Кабановіч — аўтар манаграфій "Паэзія Максіма Багдановіча", "Беларускі свабодны верш", "Фальклорныя і анталагічныя традыцыі ў беларускай паэзіі".

Таццяна Кабржыцкая — літаратуразнаўца, крытык, перакладчык. Нарадзілася на Украіне. Літаратуразнаўчую працу распачала ў Львове. А як выйшла замуж за беларускага даследчыка літаратуры Вячаслава Рагойшу, пераехала ў Мінск. У 1976 годзе пабачыла свет кніга мужа і жонкі "Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку XX ст.". Чамусьці сярод літаратараў часцей пабіраюцца шлюбам крытыкі. Вось яшчэ адзін прыклад: Рыгор Бярозкін і Юлія Канэ — муж і жонка. Рыгор Бярозкін памёр. Юлія Канэ цяпер жыве ў Ізраілі.

Здараецца, што атрымліваюцца ў пісьменнікаў і прафесійныя міжнацыянальныя сем'і. Доўгі час паэт, празаік, перакладчык, крытык Іван Ласкоў (памёр у 1993 годзе) жыў у Якуцку. Жонка нашага суайчынніка — Валянціна Гаўрылава. Двойчы яе кнігі ў перакладзе Івана Ласкова выходзілі ў Маскве. Знаёмыя творы Гаўрылавай і беларускаму чытачу.

"Інтэрнацыянальны", так бы мовіць, шлюб і ў славутага Вацлава Ластоўскага. У 1903 годзе ён ажаніўся з літоўскай пісьменніцай Марыяй Іваноўскай (Ладзіну Пяледа), якая ў той час працавала ў Пецярбургу ў чытальні польскіх сацыялістаў.

Ванда Лявіцкая — паэтэса, празаік, дачка пісьменніка Ядвігіна Ш. У 1917 годзе выйшла замуж за Язэпа Лёсіка (1883 — 1940), пісьменніка, вучонага, палітычнага дзеяча. Розніца ва ўзросце паміж мужам і жонкай складала 12 гадоў. У 1920 годзе Лёсік быў арыштаваны. Пасля яго выпусцілі. У 1930 ізноў арыштавалі. Выслалі ў Камышын над Волгай. У 1933 годзе дазволілі прыехаць туды і сям'і. Апошні арышт — у 1938. У Язэпа Лёсіка і Ванды Лявіцкай засталіся дзеці — дачка Алеся і сын Юрый. Яны і цяпер жывуць у Стаўрапальскім краі.

Максім Лужанін (нарадзіўся ў 1909 годзе) — патрыярх беларускай літаратуры. Аўтар болей як паўсотні кніг паэзіі, прозы, літаратурных мемуараў. Жонка Максіма Лужаніна — Яўгенія Пфляўмбаўм. Усё жыццё яна пісала вершы. Першая кніга (у сааўтарстве) пабачыла свет у 1926 годзе. Наступная — толькі ў 1989 годзе. Тады ж Яўгенію Эдуардаўну прынялі ў пісьменніцкую арганізацыю.

Алесь Пальчэўскі (1905 — 1979) — вядомы беларускі дзіцячы пісьменнік. Выйшаўшы з пекла сталінскіх рэпрэсій, вярнуўся на Беларусь з жонкай — грузінскай актрысай і пісьменніцай Тамарай Цулукідзе. Былі мужам і жонкай Станіслаў Шушкевіч і Гэлена Раманоўская. Біяграфія апошняй малавядомая. Нарадзілася яна ў Мінску. Пісала па-польску. Выдала ў трыццатыя гады тры кніжкі. Літаратурная дзейнасць Гэлены Раманоўскай была спынена ў сувязі з арыштам яе мужа — паэта Станіслава Шушкевіча. Тады ж у друку з'явіўся скіраваны супраць яе артыкул Алеся Кучара "Ліса ў воўчай скуры". Што заставалася рабіць жанчыне? Гадаваць дзяцей, што яна і рабіла. Пакінулі свой след у беларускай літаратуры паэтэса, драматург Вольга Сахарава (1884 — 1943) і яе муж этнограф, публіцыст Сяргей Сахараў (1880 — 1954).

Вось толькі частка "шлюбнага летапісу" беларускай літаратуры. Чым цікавыя ўсе гэтыя факты? Найперш — пашырэннем біяграфіі таго альбо іншага літаратара. Ведаючы, што жонкай Максіма Гарэцкага была пісьменніца Леаніла Чарняўская, мы ўжо, зразумела, і да яе постаці будзем болей уважлівымі, да творчасці яе — таксама. Да таго ж, даследаванне сямейнай біяграфіі творцы шмат прасцейшае, калі муж і жонка працавалі ў адной прафесіі, няхай сабе — і паасобку.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# ВЯСЕЛЛІ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ...

**Папяровае вяселле.** Святкуецца як першыя ўгодкі шлюбу. Шлюбныя адносіны ў гэты перыяд падобныя да паперы. Іх вельмі лёгка сапсаваць, скамячыць, запэцкаць, спаліць. Адносіны пачынаюцца з "чыстага аркуша", на якім можна напісаць што заўгодна, а што менавіта — залежыць ад вас. Шлюб у гэты перыяд павінны асабліва пільна берагчы і маладыя, і іхнія сваякі.

**Кардоннае вяселле.** Святкуецца праз два гады. Адносіны паміж мужам і жонкаю зрабіліся больш трывалымі, чым год таму. Яны ўжо не папяровыя, але ім уласцівыя недахопы, нібыта кардону: шлюб можна зламаць, запляміць, падпаліць.

**Паркалёвае вяселле.** Праз 3 гады. Шлюбныя адносіны могуць парвацца і сатлець, як паркаль.

**Драўлянае вяселле.** Святкуецца праз пяць гадоў. Шлюб у гэты перыяд, як і дрэва, набірае моц, аднак, нібыта драўніна, бывае слабым і не вельмі трывалым. Ён лёгка хварэе, гніе і можа быць спалены за адну хвіліну.

**Ваўнянае вяселле.** Праз сем гадоў. Адносіны паміж мужам і жонкай у гэты перыяд мяккія, цёплыя, утульныя, гадуюцца дзеці. Праўда, іншы раз адчуваецца калючая поўсць і яшчэ моль, якая псуе воўну.

**Алавянае вяселле.** Праз дзесяць гадоў. У гэты час шлюб набывае ўласцівасці металаў, трываласць волава. І галоўнае ў гэты перыяд тое, што ўзаемаадносіны вельмі пластычныя, мяккія, муж і жонка саступаюць адзін аднаму.

**Крышталёвае вяселле.** Яго чарга надыходзіць праз 15 гадоў. Гэты перыяд вельмі небяспечны. Шлюб прыгожы і цвёрды, як крышталь, але і такі ж крохкі. Ён патрабуе да сябе адпаведнага стаўлення.

**Парцэлянавае вяселле.** Праз дваццаць гадоў. Шлюб вельмі крохкі, як і парцэляна. Мае патрэбу ў беражлівым стаўленні да сябе.

**Сярэбранае вяселле.** Шырока вядомая дата, што адзначае дваццаціпяцігадовы юбілей сямейнага жыцця. Гэтая дата пацвярджае, што сямейны саюз высакародны і можа супрацьстаяць жыццёвым выпрабаванням, нібыта срэбра.

**Жамчужнае вяселле.** Адзначаецца праз трыццаць гадоў. Адносіны падобныя да жэмчугу, які не цямнее. Але патрэбна добрае, беражлівае стаўленне, каб захавалася іхняе хараство.

**Рубінавае вяселле.** Праз сорак гадоў. Блізкасць мужа і жонкі стала ўжо кроўнай: рубін — колер крыві. Шлюб трывалы, нібы рубін, моцна супрацьстаіць усім выпрабаванням.

**Залатое вяселле.** Адзначаецца праз пяцьдзесят гадоў. Адносіны пластычныя і трывалыя, не паддаюцца карозіі, нібыта вырабы з царскага металу.

**Плацінавае вяселле.** Малавядомая дата, што адзначаецца праз шэсцьдзесят гадоў. Шлюбныя адносіны як і плаціна, маюць яшчэ больш трывалыя ўласцівасці, супрацьстаяць агню, не распушчаюцца нават пад уздзеяннем "царскай гарэлкі" і... цяжкія.

**Дыяментавае вяселле.** Святкуецца тымі, каму пашчасціла пражыць разам семдзесят гадоў, вытрымаўшы ўсе складанасці лёсу, нібыта дыямент. Такія вяселлі — вельмі рэдкая з'ява, як і буйныя прыродныя алмазы.

**Дубовае вяселле.** Шлюбныя адносіны святкуюць свае васьмідзесятыя ўгодкі. Яны нагадваюць стары, каржакаваты дуб. З яго, напэўна, зробяць і... труну.

**Вяселлі святкаваў**
**Іван ШПАДАРУК**

# МАЛЮЕ... СКРЫПКА





У музеі Ф.Э.Дзяржынскага, што ў Івянцы, экспануецца выстава твораў 27-гадовага мастака-карыкатурыста Аляксандра Скрыпкі, якая з'яўляецца творчай справаздачай былога выхаванца народнай студыі выяўленчага мастацтва Івянецкай сярэдняй школы перад сваімі землякамі.

У экспазіцыю ўключаны малюнкі, выкананыя ў розныя гады, у якіх падгледжаныя ў рэальным жыцці сітуацыі аўтар трансфармуе ў вобразы, напоўненыя добразычлівым гумарам і вострай сатырай. Тэматыка твораў ахоплівае шырокі спектр жыцця нашага грамадства, але найбольшую перавагу мастак аддае тэмам медыцыны, спорту, культуры, армейскіх будняў і сямейна-бытавым калізіям.

З маленства Алесь захапіўся маляваннем. Маляваў у школе, падчас службы ў войску і вучобы ў Маладзечанскай медычнай вучэльні, але шырокаму колу гледачоў ягоныя карыкатуры сталі вядомыя толькі летась, калі з'явіліся на старонках раённых, абласных і рэспубліканскіх газет.

Зубны тэхнік, які жыве і працуе ў Пружанах, увесь вольны час аддае творчасці. Упарта шліфуючы тэхніку малявання пяром, ён паступова выпрацоўвае свой уласны стыль, яго работы запамінаюцца і лёгка пазнаюцца. Выкарыстоўваючы спосаб шаржу і гратэску, графік дамагаецца лаканічнай выразнасці і абагульненасці сваіх персанажаў. Разнастайнасць кампазіцыйных імправізацый заўсёды абумоўлена зместам твора.

**Алег РАМАНОЎСКІ**
*Івянец*



К КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік —
Міністэрства культуры
Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Ігар КЛОКАЎ, Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Алена ПІСЬМЯНКОВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 22.05.97. у 16.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3446
Замова 2867
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.